


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

16 кастрычніка 2020 года №42 (1329) 18+


# Асудзілі дэпутата з Лебедзева, якога збіў АМАП

12 жніўня жыхары вёскі Лебедзева ў Маладзечанскім раёне разам з дэпутатам Аляксандрам Грымацем неслі зварот у сельвыканкам аб спыненні гвалту і пачатку перамоў. Па дарозе іх збіў і затрымаў АМАП. 9 кастрычніка Грымаця судзілі за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

старонкі 20-21

На фота: дэпутат Аляксандр Грымаць зачытвае зварот да старшыні сельвыканкама Тамары Дудзіч; супрацоўнікі АМАПа затрымліваюць жыхароў Лебедзева, якія неслі зварот у сельвыканкам.

Фота Настассі УТКІНАЙ. Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.




ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by






З якімі праблемамі жыхары Вілейшчыны звярталіся на «прамую лінію» да старшыні райвыканкама

старонка 3

# Суд адхіліў скаргу наконт адмовы правесці сход па адкліканні дэпутата

**13 кастрычніка адбылося другое судовае пасяджэнне па абскарджанні рашэння прэзідыума Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў.**

На пасяджэнні была частка са 173 заяўнікаў. Прадстаўніком Савета дэпутатаў выступіў **Андрэй Паўкшта**, старшыня органа. Пасяджэнне вяла суддзя **Наталля Герман**.

Заяўнікі прасілі прызнаць рашэнне прэзідыума Маладзечанскага Савета дэпутатаў ад 10 верасня незаконным і які парушае правы заяўнікаў, прадугледжаныя Выбарчым кодэксам. А таксама абавязаць Савет дэпутатаў прыняць новае рашэнне аб скліканні сходу выбаршчыкаў па пытанні адклікання дэпутата Палаты прадстаўнікоў па Маладзечанскай сельскай акрузе №73 **Алега Семенчука**.

Заяўнік Раман Гардзяюк адзначыў, што прэзідыум Савета дэпутатаў не меў паўнамоцтваў выносіць такое рашэнне. Таму што павінны быў склікаць сход і праверыць подпісы тых, хто звярнуўся з гэтай заявай.

– Улада прадстаўляе народ, – разважаў выбаршчык. – У дадзеным выпадку народ за подпісамі больш за 150 чалавек скарыстаўся інструментам паводле Выбарчага кодэкса для арганізацыі сходу. І Савет не меў права адмаўляць, а мусіў, наадварот, дапамагаць, аднак чамусьці перашкаджае самому народу, ад якога і выбіраецца.

Гардзяюк патлумачыў, чаму рашэнне Савета абскардзілі:

– Жыхары 73 выбарчай акругі страцілі давер да дэпутата. Яны скарысталіся Выбарчым кодэксам, каб арганізаваць сустрэчу з дэпутатам, па выніках якой прымуць канчатковае рашэнне. Адпаведную заяву жыхары падалі ў Савет дэпутатаў, каб орган дапамог арганізаваць сустрэчу. На гэтай сустрэчы павінна прысутнічаць не менш за 300 выбаршчыкаў, гэта масавае мерапрыемства, якое трэба ўзгадняць. Па нашай заяве Савет павінны быў праверыць подпісы заяўнікаў, што падпісалі зварот, і сабраць сход выбаршчыкаў. Лічым, што рэакцыя органа супярэчыць заканадаўству, а, галоўнае, інтарэсам грамадзян. Нам не далі магчымасць атрымаць справаздачу ад дэпутата, лёс знаходжання якога ў Палаце мы хочам абмеркаваць. З пункту гледжання логікі і маралі, мы ўсё рабілі правільна, у межах закона. Савет не меў ні падстаў у адмове, ні паўнамоцтваў.

Гардзяюк адказаў, што выбаршчыкі звярталіся з калектыўнымі зваротамі, званілі на «гарачую лінію» і звярталіся падчас сустрэчы да Семенчука. Але на большасць зваротаў адказы атрымалі са спазненнем, а калі і атрымалі, то яны не задаволілі выбаршчыкаў, таму што там змешчаная няпраўдзівая інфармацыя. Напрыклад, дэпутат паведаміў, што яму невядома пра выпадкі гвалту з боку сілавікоў. Хаця ў пракуратуру і Следчы камітэт Валожынскага раёна жыхары Ракава падалі калектыўны зварот з просьбай праверыць факты 9-12 жніўня, калі група невядомых людзей без апазнавальных знакаў прымяняла фізічную сілу. Ці запытваў дэпутат гэту інфармацыю, невядома.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Суд Маладзечанскага раёна.

Адзін з заяўнікаў заявіў, што дэпутат закрыты для дыялогу, але ў СМІ публікавалася інфармацыя, дзе ён казаў пра іншую пазіцыю. Сярод дапаўненняў іншых заяўнікаў адзначылі тое, што выбаршчыкам нават не далі магчымасць сабрацца, каб абмеркаваць пытанне.

Старшыня Савета дэпутатаў Андрэй Паўкшта патлумачыў, што, паводле закона, ёсць пералік фактаў, з-за якіх магчыма разглядаць пытанне аб адкліканні дэпутата. Але ніводны з гэтых пунктаў, які дазволіў бы людзям адклікаць дэпутата, у заяве выбаршчыкаў не быў змешчаны і не быў абгрунтаваны. Таму прэзідыум і прыняў рашэнне адмовіць у сходзе, таму што на адкліканне не было матыву.

Гардзяюк заявіў, што кожны дзень з'яўляецца інфармацыя аб бяздзеянні службовых асоб і іх адказаў не па сутнасці:

– Таму такой важнай была б сустрэча з дэпутатам, дзе той, сумленна гледзячы зацікаўленым выбаршчыкам у вочы, адказаў бы на пытанні. І гэта стала бы пачаткам вырашэння палітычнага крызісу, прычынай якога і стала бяздзеянне афіцыйных асоб, а часта – парушэнне правоў людзей. Дэпутат парламента – той чалавек, які павінны нас слухаць і дапамагаць вырашаць гэтыя пытанні.

Яшчэ адзін заяўнік адзначыў, што, атрымліваецца, дэпутат не абавязаны рэагаваць на тое, што адбываецца, і запытваць тлумачэнні з розных органаў, але можа. Гэта значыць, грамадзянам, выбаршчыкам ніхто нічым не абавязаны.

Гардзяюк хадайнічаў, каб суд запатрабаваў пратакол пасяджэння прэзідыума Савета дэпутатаў, у межах якога прынялі рашэнне не збіраць сход. Пракурор не была супраць, суддзя хадайніцтва адхіліла.

14 кастрычніка суд абвясціў пастанову. Суд не задаволіў скаргу заяўнікаў на рашэнне прэзідыума Савета дэпутатаў. Па меркаванні суда, у заяве павінны быць матывы адклікання дэпутата, а доказы заяўнікаў не сведчаць аб бяздзеянні дэпутата Семенчука і не змяшчаюць звестак, якія яго дыскрэдытуюць.

Пасля таго, як стала вядома рашэнне суда, Раман Гардзяюк пракаментаваў журналістам:

– Мы сапраўды дапусцілі памылкі ў першай заяве, не выбраўшы канкрэтны пункт закона і не прыклаўшы дакумент. На жаль, усё сказанае жыхарамі за два пасяджэнні суд не прыняў да ўвагі. Ні адзін з довадаў, агучаных намі, не быў прыняты да ўвагі.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77




Са сваімі турботамі жыхары Вілейшчыны звярталіся на «прамую лінію».

# Падвоз, адкрыццё аптэкі, пытанні ЖКГ

## З чым звярталіся на «прамую лінію» да старшыні райвыканкама

**10 кастрычніка старшыня Вілейскага райвыканкама Алег Бегунец правёў «прамую лінію». У сектары па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб райвыканкама карэспандэнту расказалі пра тое, з якімі праблемамі на гэты раз вілейчукі звярталіся да старшыні і як іх будуць вырашаць.**

ВІЛЕЙКА

### Палова ўсіх пытанняў – да ЖКГ

Найбольш пытанняў – сем з чатырнаццаці – было па ЖКГ. Пыталіся пра рамонт двароў шматкватэрных дамоў у Вілейцы, вулічнае асвятленне ў вёсцы Седзіца Вязынскага сельсавета, прачыстку меліярацыйнай канавы ў Абадоўцах.

Наконт рамонту дваровых тэрыторый старшыня адказваў, што сёлета зробяць толькі тыя, якія былі запланаваныя. Пасля правядуць абследаванні іншых двароў. І зыходзячы з таго, наколькі там праблемнае пакрыццё, сфарміруюць чаргу на наступны год.

### Бацькі школьніка – пра падвоз, вяскоўцы – пра лазню

Ад бацькоў школьніка з вёскі Мільча было пытанне пра тое, каб падвоз у школу і са школы ў Даўгінава зрабіць больш зручным па часе. Графік падвозу будуць разглядаць. Але, як паведамілі ў сектары па зваротаў, не заўсёды яго можна змяніць. Графік падвозу складаецца з улікам урокаў, факультатываў, узросту дзяцей, кіламетражу.

А жыхары Куранца хацелі б, каб ім арганізавалі падвоз у вілейскую лазню. Тут першапачаткова спецыялісты, якім пераадрасавалі пытанне, павінны будуць вывучыць расклад маршрутнага транспарту. Калі прымальных аўтобусаў няма, разгледзяць магчымасць падвозу. Але за аўтобус, які вязе людзей у лазню, чакае іх пару гадзін, а потым вязе назад, вяскоўцы мусяць плаціць як за заказны.

### Пытанні пра медыцыну і перанос грамадскай прыбіральні

Таксама жыхарам Куранца нязручна тое, што на месцы не працуе лабарант. Каб здаць аналізы, вяскоўцы мусяць ездзіць у Вілейку.

У чарговы раз падымалася пытанне пра тое, каб адчыніць аптэку на Вілейскім аўтавакзале. Гэта зручна і вяскоўцам, што прыязджаюць у горад, і жыхарам мікрараёна Воўкаўшчына, у якім няма аптэкі.

Ільянец з інваліднасцю звяртаўся з тым, каб зрабіць пандус у будынку гарадской стаматалогіі ў Вілейцы і каб грамадскую прыбіральню ў Ілі са сквера за былым універмагам перанесці ў парк у цэнтры.

### Як працуюць са званкамі на «прамую лінію»

Як расказала загадчыца сектара па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Вілейскага райвыканкама **Вольга Зубель**, «прамыя лініі» ладзяць кожную суботу. Званкі прымае або старшыня райвыканкама, або хтосьці з яго намеснікаў.

Усе званкі рэгіструюцца. Калі ёсць магчымасць, то адказ даецца адразу. Калі не – ставіцца на кантроль.

На гэты раз з 14 пытанняў толькі на адно далі адказ адразу. Сям'я пыталася, ці можна выкарыстаць мацярынскі капітал, каб набыць новую газавую пліту.

**По заканадаўстве пакупка пліты не з'яўляецца прычынай, па якой можна патраціць капітал. Гэта і растлумачылі сям'і.**

Па словах загадчыцы сектара зваротаў, усім, хто тэлефанаваў на «прамую лінію» з пытаннямі, адказ дадуць на працягу 15 дзён. Калі праблема патрабуе дадатковага вывучэння і выезду на месца – на працягу месяца.

Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



**ЛІЧБА НУМАРА**

**1056**

столькі двойняў нарадзілася ў Беларусі за 2019 год

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.10 | 15.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6205 | 2.5717 |
| Еўра | 3.0818 | 3.0185 |
| Злоты, 10 | 6.8695 | 6.6951 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3548 | 3.3302 |
| Грыўня, 100 | 9.2495 | 9.0745 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 7.10 | 14.10 |
| Еўра | 3.0200/3.1200 | 2.9800/3.0800 |
| Долар ЗША | 2.5800/2.6500 | 2.5400/2.6200 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 7.10 | 14.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,85 | 20,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | 7,60 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,50 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | 4,70 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,00 | 17,00 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | 2,15 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,35 |
| Алей, 1 л | 3,50 | 3,50 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,50 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | 2,60 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 2,00 | 2,00 |
| Бульба, 1 кг | 0,90 | 0,90 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,40 | 2,40 |
| Морква, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Памідоры, 1 кг | 2,10 | 2,00 |
| Перац, 1 кг | 2,50 | 3,00 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | 5,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | 3,80 |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | 3,20 |
| Вінаград, 1 кг | 3,70 | 3,70 |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | 2,90 |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | 2,00 |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | 4,10 |
| Мандарыны, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Персікі, 1 кг | 3,80 | 3,80 |
| Хурма, 1 кг | 3,70 | 3,70 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,80 | 2,80 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Масла, 1 кг | 17,00 | 17,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | 3,20 |

## Машына ўрэзалася ў дрэва. Кіроўца загінуў

**МЯДЗЕЛ**

13 кастрычніка каля сямі раніцы мядзельскім выратавальнікам паведамілі пра аварыю каля Шыкавічаў.

Кіроўца легкавіка, 57-гадовы жыхар Мядзела, не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў дрэва. Работнікі МНС дасталі 36-гадовага пасажыра, які пацярпеў, а таксама загінулага кіроўцу. Пасажыра адвезлі ў бальніцу.

**Паводле МНС.**

## Невядомы абакраў лецішча, пакуль не было гаспадара

**ВІЛЕЙКА**

12 кастрычніка ў РАУС Вілейкі звярнуўся дачнік з вёскі Паняцічы Вязынскага сельсавета. У мужчыны з лецішча зніклі некалькі рухавікоў і дыскавая піла. Страты склалі каля 970 рублёў.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Мікалая Мягкова**, апошні раз мужчына быў на лецішчы ў снежні 2019 года. Калі прыехаў сёлета 10 кастрычніка, убачыў, што з гаспадарчай пабудовы зніклі пяць электрарухавікоў рознай магутнасці. Таксама знік рухавік з рамы дрэваапрацоўчага станка, што стаяў на вуліцы пад навесам, і дыскавая піла дыяметрам 620 міліметраў з перахаднікам для яе фіксацыі.

Вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 205. Вінаватага ў злачынстве шукаюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У нядзелю здарылася аварыя. Двое – у бальніцы

**ВІЛЕЙКА**

ДТЗ адбылося ў нядзелю, 11 кастрычніка, у 13:40 паміж вёскамі Сосенка і Старынкі.

35-гадовы кіроўца на «Пежо» ехаў па аўтадарозе Барысаў–Ашмяны з боку Ашмянаў. На закругленні дарогі ён не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з «Гольфам», паведамляюць у АДАІ Вілейкі.

Пацярпелі кіроўца і пасажырка «Гольфа». У машын – механічныя пашкоджанні.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аварыя ў Красным

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася 11 кастрычніка днём у Красным. 70-гадовы кіроўца на «Опелі» ехаў па вуліцы 1 Мая з боку Мінска ў Маладзечна.

Каля дома 115-а зразумеў, што праехаў паварот да крамы. Таму ўзяў правей на ўзбочыну і вырашыў развярнуцца. Уключыў паварот, пачаў разварочвацца. Але не ўбачыў, што ззаду, у спадарожным кірунку, едзе «Пежо». За рулём была 33-гадовая жыхарка Чысці. У выніку сутыкнення: «Пежо» уехала ў левы бок «Опеля».

У «Опелі» былі пасажыры – жонка кіроўцы і дзве ўнучкі. У ДТЗ пацярпелых няма. У машын – механічныя пашкоджанні, расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечана ГРАНС Маладзечна.

Дом належаў сваякам міліцыянера.

# Гарэў дом у вёсцы Гарадзілава

## Ён належаў сваякам міліцыянера. Падазраюць наўмысны падпал

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пажар здарыўся ў ноч з 10 на 11 кастрычніка. Пра здарэнне ў ГРАНС Маладзечна паведамілі ў 2:46.**

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, дом гарэў адкрытым полымем. Агонь знішчыў дах, закурыў сцены і маёмасць. Ахвяр няма. У доме ніхто не жыў, расказала карэспандэнту старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога апраўлення МНС **Дыяна Жалязняк**.

**Следчыя ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі міліцыі шукаюць людзей, датычных да падпалу дома сваячкі супрацоўніка міліцыі.**

Як паведамілі ў Следчым камітэце, дом належаў сваяку міліцыянера. Улічваючы сукупнасць атрыманых у ходзе першапачатковых следчых дзеянняў, асноўнай версіяй здарэння з'яўляецца наўмысны падпал.

Следчыя дапытваюць сведак, прызначаныя комплексная пажарна-тэхнічная, крыміналістычная экспертыза нафтапрадуктаў і гаруча-змазачных матэрыялаў і іншыя даследаванні.

Па дадзеным факце ўзбудзілі крымінальную справу па частцы 2 артыкула 218 Крымінальнага кодэкса – наўмыснае пашкоджанне маёмасці, здзейсненае агульнанебяспечным спосабам.

Падобная сітуацыя мела месца з 1 на 2 кастрычніка ў Гродзенскай вобласці. Невядомыя падпалілі аўтамабіль, прыпаркаваны каля інтэрната, а праз гадзіну загарэўся недабудаваны дом. І дом, і аўтамабіль належалі супрацоўніку міліцыі Ваўкавыскага РАУС.

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА! ВЫШУК

## 20-гадовая віляйчанка паехала на заробкі ў Расію і знікла

**ВІЛЕЙКА**

**Пра тое, што знікла 20-гадовая жыхарка Вілейкі Аліна Кучарэнка, нам паведамілі ў Вілейскім РАУС. Дзяўчыну шукае вілейская міліцыя і валанцёры атрада «Анёл».**



Як расказалі ў РАУС, віляйчанка паехала на заробкі ў Падмаскоўе. Ад 6 чэрвеня перастала выходзіць на сувязь з роднымі. Дзяўчына зарэгістраваная па адрасе: Вілейка, завулак Другі Прамысловы, дом 22.

Прыкметы: рост 165-170 сантыметраў, худая, шэрыя вочы, светлыя прамыя валасы.

Асобыя прыкметы: на ўнутранай частцы запясця адной з рук – радзімая пляма.

Калі вам нешта вядома пра знаходжанне дзяўчыны – тэлефануйце: 8 (029) 181-71-29, 8 (025) 959-36-48, 8 (01771) 5-26-02 або 102.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У машыны лопнула кола, і яна ўрэзалася ў слуп

**МАЛАДЗЕЧНА**

У суботу, 10 кастрычніка, каля палови пятай вечара ў Маладзечне на Віленскай, каля дома №22, «Мерсэдэс» урэзаўся ў слуп. Машына пацярпела так, што аднавіць яе нельга. Сам кіроўца не пацярпеў.

Як расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**, машыну кіроўца набыў у той жа дзень, незадоўга да аварыі.

За рулём быў 26-гадовы кіроўца. Машына з'ехала з пуцеправода і рухалася ў кірунку Вялікага Гасцінца.

Раптам лопнула кола. Машыну павяло, і яна ўрэзалася ў слуп асвятлення.

Як распавялі ў АДАІ, аўтамабіль зарэгістраваны ў Расіі. Машыну аднавіць нельга.

Да 2023 года мужчына не меў права садзіцца за руль. Летам ён выйшаў пасля адбывання тэрміну за кіраванне ў нецвярозым стане. Дадатковае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення права кіравання яшчэ дзейнічала.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выратавальнікі і міліцыя знайшлі ў лесе зніклую пенсіянерку

**АШМЯНЫ**

У аператыўна-дзяжурную службу Ашмянскага РАУС паведамілі пра тое, што са свайго дома на станцыі Ашмяны ў невядомым кірунку сышла 65-гадовая жанчына. Дачка, якая патэлефанавала ў міліцыю, патлумачыла, што маці пайшла рана 4 кастрычніка і адсутнічала дома цэлыя суткі.

Следча-аператыўная група ўстанавіла, што ў перыяд ад 2 да 4 кастрычніка без вестак зніклая сябе дрэнна адчувала.

Пачалі пошукі. Да 17 міліцыянераў далучыліся пяцёра работнікаў РАНС. Група пачала абследаваць сам населены пункт і найбліжэйшы лес. Праз некалькі гадзін без вестак зніклую жанчыну знайшлі ў лесе прыкладна за кіламетр ад свайго дома. Стан здароўя знойдзенай быў крытычны. Адразу ж выклікалі службу хуткай дапамогі, якая даставіла жанчыну ў рэанімацыю Ашмянскай ЦРБ.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў пераканаўча просяць прыглядаць за сваімі пажылымі сваякамі, а таксама роднымі, у якіх ёсць праблемы са здароўем. У выпадку, калі вы заўважылі, што вашы родныя доўгі час адсутнічаюць па месцы жыхарства, не выходзяць на сувязь, неадкладна паведамляйце пра гэта ў адпаведныя службы, бо наступствы могуць быць незваротнымі.

**Паводле osh.by.**




# «Маладзечнагаз» святкуе 60-годдзе

**22 кастрычніка адзначыць юбілей арганізацыя, дзякуючы якой у дамах ёсць газ не толькі на Маладзечаншчыне, але і ў бліжэйшых раёнах.**

Гісторыя прадпрыемства бярэ пачатак ад 1960 года. Маладзечанскі эксплуатацыйна-мантажны ўчастак звадкаванага газу створаны 22 кастрычніка і займаў два кабінеты будынка гасцініцы па вуліцы Лібава-Роменскай. Начальнікам участка прызначылі **Уладзіміра Кукурузу**. Пра тыя часы прыгадвае першы майстар арганізацыі, а пасля начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела **Людміла Лявонцьева**, якая працавала ў арганізацыі ў 1961-2004 гадах:

– На той момант арганізацыя складалася з дзесяці чалавек, месціліся ў двух кабінетах невялікай прыбудовы да гасцініцы. Не хапала не толькі месца, але і тэхнікі. За дзень мне трэба было абследаваць па 30-40 газабалонных установак, да ўсіх даводзілася дабірацца пешшу. Дзякуючы гэтаму вывучыла кожны дом і кожную вуліцу, пазнаёмілася з многімі людзьмі. «Маладзечнагаз» – маё адзінае месца працы. Аддала прадпрыемству 40 год, працавала сумленна. У сувязі з 60-годдзем хачу пажадаць калектыву любіць сваю працу, захоўваць павагу ў калектыве, быць годнымі прадстаўнікамі прафесіі.

Газавая служба заўсёды цесна працуе са спажыўцамі. «Маладзечнагаз» абслугоўвае 2 174,4 кіламетра газаправодаў прыроднага газу, 73 650 газіфікаваных кватэр прыродным газам, 45 094 – звадкаваным газам. Агулам прадпрыемства забяспечвае газам 68 прамысловых спажыўцоў і 271 камунальна-бытавых. Асаблівасці працы па абслугоўванні газазабеспячэння падзялілася начальнік службы УДГА **Крысціна Пашкевіч**, якая працуе ў арганізацыі ад 1985 года і мае медаль «За працоўныя заслугі»:

– Пачынала з пасады слесара і кантралёра, праз чатыры гады стала майстрам службы эксплуатацыі сістэм газазабеспячэння. Наша праца патрабуе цеснага ўзаемадзеяння з насельніцтвам. Гэта няпроста: трэба быць цярплівым і стрыманым – асабліва з пажылымі людзьмі. Але і радасці ў нашай працы шмат! Так добра, калі людзям цёпла ў дом пускаеш, а яны табе дзякуюць. У 2015 годзе мяне прызначылі начальнікам службы УДГА, ад работнікаў якой залежыць далейшая эксплуатацыя газавыкарыстальнага абсталявання ўсяго раёна. Праца адказная, але цікавая. Сыходзіць на пенсію зусім не хачу, не ўяўляю сваё жыццё без любімага прадпрыемства! Маладым спецыялістам хачу пажадаць адказнасці і цярпення, без гэтых якасцяў у нашай працы – нікуды.

### Найперш – камфорт спажыўцоў

За плячыма работнікаў філіяла «Маладзечнагаз» – доўгі і няпросты шлях газіфікацыі роднага краю. За сваю гісторыю калектыў перажыў не толькі перыяды ўздыму, працоўных перамог, але і нялёгкія выпрабаванні. Але ва ўсе часы нязменнымі заставаліся згуртаванасць, адказнасць, прафесіяналізм, працавітасць і ўважлівае стаўленне да справы работнікаў у імя вырашэння галоўнай задачы – надзейнага, бяспечнага і бесперабойнага газазабеспячэння спажыўцоў.

Менавіта ў Маладзечне ў 2016 годзе адкрылі першы на Міншчыне цэнтр абслугоўвання насельніцтва па адрасе: вуліца Валынца, 12-а. Прапускная здольнасць цэнтра – да ста наведнікаў штодзень. Такі цэнтр – прыклад новага падыходу да абслугоўвання абанентаў, забеспячэнне комплекснай паслугі па арганізацыі работы з насельніцтвам. Задача работнікаў цэнтра – максімальная набліжанасць да спажыўцоў газу і аператыўнасць абслугоўвання.

**У структуру вытворчага ўпраўлення «Маладзечнагаз» уваходзяць таксама раённыя газавыя службы ў Мядзеле, Вілейцы і Лагойску. На іх базах таксама стварылі цэнтры абслугоўвання насельніцтва.**

У 2017 годзе ўпершыню ў Беларусі менавіта ў «Маладзечнагазе» АДС мадэрнізавалі і рэарганізавалі ў адзіны дыспетчарскі пункт. Усе аўтамабілі службы маюць дадатковае абсталяванне перадачы дадзеных для забеспячэння бесперабойнай сувязі паміж дыспетчарам і аварыйнай брыгадай у любым пункце чатырох раёнаў.

У 2020 годзе пачалі будаўніцтва навучальнага палігона на базе філіяла ВУ «Маладзечнагаз». Дадзены палігон дазволіць праводзіць трэніровачныя заняткі брыгадам, занятым у абслугоўванні сістэмы газазабеспячэння, і брыгадам, якія займаюцца ліквідацыяй аварый і інцыдэнтаў на аб'ектах газазабеспячэння. Акрамя таго, у мэтах паляпшэння ўмоў працы,



выканання санітарных норм і правілаў аховы працы плануецца пачаць распрацоўку праектнай дакументацыі па будаўніцтве новага адміністрацыйна-бытавога корпуса філіяла.

Агулам ва ўпраўленні 468 супрацоўнікаў, якія вырашаюць галоўную задачу – надзейнае, бяспечнае і бесперабойнае газазабеспячэнне спажыўцоў. Сумленную працу адзначаюць на высокіх узроўнях – 200 работнікаў маюць ганаровае званне «Ветэран прадпрыемства», пяцёра – ганаровае званне «Ветэран газавай і паліўнай прамысловасці», двое маюць ганаровае званне «Ганаровы работнік газавай і паліўнай прамысловасці», 12 работнікаў узнагароджаныя Юбілейным знакам ДВА «Белпалівагаз», двое работнікаў узнагароджаныя медалём «За працоўныя заслугі».

Падтрымліваць майстэрства на высокім узроўні, якасна і своечасова вырашаць задачы, што стаяць перад калектывам, дазваляе спалучэнне досведу і маладосці. І сёння ў калектыве працуюць дасведчаныя работнікі, якія шмат год аддаюць майстэрства і веды газіфікацыі раёна. Гэта І. Скапец, К. Пашкевіч, С. Стрыга, С. Казячы, Т. Рамановіч, В. Вішнікіна, У. Аноп, А. Макарэвіч, В. Рымша, А. Васільеў, А. Балаганаў, Т. Акімава, І. Жаўтко, І. Камілава, І. Лямін, Н. Сташкевіч, В. Полаз, П. Пірог, А. Мацко, Н. Жукоўская, А. Зянкевіч, Ю. Івашкевіч і іншыя.

Газ – гэта галіна будучыні. Кожны газаправод робіць жыццё людзей больш камфортным. Дзеля гэтага і працуе калектыў філіяла ВУ «Маладзечнагаз».

## Віншаванне з 60-годдзем арганізацыі дырэктара філіяла ВУ «Маладзечнагаз» Міхаіла Прыбалаўца

– На кожнай пасадзе патрабуюцца прафесіяналізм і адказнасць, але ў газавай галіне гэтыя патрабаванні ўзрастаюць у шмат разоў. Газ прыносіць карысць людзям, але можа стаць і крыніцай бяды. У сувязі з гэтым мы старанна адбіраем кадры, прыцягваем высокакваліфікаваных спецыялістаў, цесна ўзаемадзейнічаем з кожным спажыўцом. Сёння ВУ «Маладзечнагаз» – філіял, які стабільна развіваецца і з'яўляецца лідарам у сістэме «Мінскаблгаз» у выкананні вытворчых паказчыкаў, ва ўкараненні тэхнічных сродкаў кантролю рэжымаў газазабеспячэння, якаснага абслугоўвання насельніцтва, форм арганізацыі і аплаты працы.

У будучыню работнікі філіяла глядзяць з аптымізмам: адносіны са спажыўцамі і партнёрамі будуюць на аснове павагі, прыстойнасці і ўзаемнай падтрымкі. Мы працуем над тым, каб кожны член калектыву ўсведамляў сваё месца ў вытворчым ланцужку і гатовы быў прыняць важнае рашэнне ў патрэбны момант.

Дзякуй усім работнікам і ветэранам філіяла ВУ «Маладзечнагаз», хто сваёй працай ствараў і ўдасканальваў сістэму газазабеспячэння і працягвае пашыраць нашы магчымасці ў рэалізацыі ўсіх планаў і задум. Жадаю моцнага здароўя, цудоўнага настрою, паспяховых працоўных будняў і новых яскравых здзяйсненняў!

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

• Нісан-Прымера, 1992 г.в., 1,6 л, газ-бензін, 480000 км. На хаду, нядорага. Т. (8-029) 9959778.*

• Опель-Астра 1,7 TDI, рухавік Ісузу, 1995 г.в., камплект зімовай гумы на дысках. 2860 руб. Т. (8-033) 3237067, Вілейка.

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., сталлі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

**КУПЛЮ**

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

**КУПЛЮ**

• Гараж у ГК-1 г. Маладзечна. Т. (8-033) 6035716.*

**ЗДАМ**

• Кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 2103019.

**НАЙМУ**

• 2-х, 3-х, 4-пакаёвую кватэру ў Вілейцы або дом з выгодамі на доўгі тэрмін, дорага. Т. (+375-44) 5132783.*

## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

• Музыка, відэаздымка, фотаздымка, тамада. Т. (8-029) 8578378.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцы. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне, культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, 7 год. Т. (8-029) 7518549, (8-0176) 504159.*

• Козы зааненскія, 2 шт., высокаўдойныя, цана дамоўная, дапамагу з дастаўкай. Вёска Ілья, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6934239 (МТС), (8-029) 9980002 (А1).*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

• Парасяты дамашнія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.*

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Віталій. Т. (8-029) 6769359.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

**КУПЛЮ**

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Папугая карэла. (8-029)5019550.*

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Фотаапараты «Зеніт» і розныя аб'ектывы. Т. (8-029) 2988005.*

**ІНШАЕ**

• Адукацыйны цэнтр «Волшебное прикосновение» запрашае на вучэбныя курсы па напрамках: масажыст, бравіст, майстар па дэпіляцыі, касметык, майстар па пазногцевага сэрвісу. ІП Бухнов А.Г. УНП 391435137 Т. (8-029) 7178246, (8-025) 5480842.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

• Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. Т. (8-044) 4564380.*

# У Маладзечне прайшла чарговая пратэстная акцыя. Затрыманых асудзілі ў ізалятары

**11 кастрычніка ў Маладзечне прайшла пратэстная акцыя.**

Людзі збіраліся ў парку і на плошчы. У парку міліцыянеры праводзілі прафілактычныя гутаркі, казалі жанчынам ісці дадому. Жанчыны ж спрабавалі даведацца, ці адэкватна прымянялі і працягваюць прымяняць фізічную сілу сілавікі ў дачыненні да дэманстрантаў.

**Упершыню ў журналістаў, якія працуюць на акцыях у Маладзечне, міліцыянеры праверылі дакументы.**

Іншая група пратэстоўцаў сабралася на алеі каля Цэнтральнай плошчы. Яны рушылі ў бок Лядовага палаца. Супрацоўнікі міліцыі папярэджвалі, што акцыя людзей несанкцыянаваная, а іх дзеянні незаконныя.

Падчас шэсця па Вялікім Гасцінцы пачаліся затрыманні.

**Нашы карэспандэнты бачылі, як міліцыянеры затрымалі двух мужчын, аднаго з іх з прымяненнем фізічнай сілы.**

14 кастрычніка, праз тры дні пасля затрымання, **Аляксандра Новаша** і **Яўгена Радкевіча** асудзілі ў ізалятары праз відэасувязь.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Затрыманне Аляксандра Новаша.

## Дайджэст. Нагадваем пра падзеі мінулага тыдня ў Беларусі і свеце

**У дайджэсце нагадваем, што адбывалася ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### Украіна падоўжыла каранцін з-за каронавіруса да канца года

Урад Украіны падоўжыў уведзеныя ў краіне з-за каронавіруса каранцінныя абмежаванні да 31 снежня 2020 года. Улады таксама вырашылі прыняць шэраг дадатковых мер. Новыя абмежаванні закрануць правядзенне масавых мерапрыемстваў. Сярэднім адукацыйным установам рэкамендавалі сысці на канікулы ад 15 да 30 кастрычніка, а ўстановам вышэйшай і прафтэхадукацыі – ад 15 кастрычніка да 15 лістапада перайсці на дыстанцыйнае навучанне.

### Тэрмін самаізаляцыі з-за кавіду скарацілі да дзесяці дзён

У Беларусі тэрмін знаходжання ў самаізаляцыі з-за COVID-19 скарочаны да дзесяці дзён. Грамадзянам у самаізаляцыі дазволена ў выпадку крайняй неабходнасці наведваць арганізацыю аховы здароўя для атрымання экстраннай і (або) неадкладнай медыцынскай дапамогі. Пастановай пашыраны спіс асоб, на якіх не распаўсюджваюцца патрабаванні па самаізаляцыі па прыбыцці з краін, у якіх рэгіструюцца выпадкі COVID-19. Гэта кіраўнікі і члены афіцыйных дэлегацый; тыя, хто едзе праз Беларусь транзітам і выедзе з краіны на працягу сутак; якія прыбылі з камандзіровак; асобы, якія перавозяць ствалавыя клеткі, органы для трансплантацыі.

### У Мінску адбыўся марш пенсіянераў. Сілавікі ўжылі святлошумавыя гранаты

12 кастрычніка ў маршы ўзялі ўдзел некалькі тысяч сталых людзей. Яны патрабавалі свабодных выбараў і спынення рэпрэсій. Сілавікі ўжылі святлошумавыя прылады для іх разгону. Інцыдэнт адбыўся каля Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта на праспекце Незалежнасці ў Мінску.

### У Пінску 12-гадовая дзяўчынка параніла нажом дзвюх аднакласніц

12 кастрычніка прыкладна ў 08:45, перад урокам фізічнай культуры, 12-гадовая школьніца ў жаночай раздзявалцы адной з устаноў адукацыі Пінска нажом параніла дзвюх аднакласніц.

«Адной з дзяўчынак нанесеныя цялесныя пашкоджанні, з якімі яна шпіталізаваная. Другой вучаніцы аказалі медыцынскую дапамогу на месцы, і ў шпіталізацыі яна не мае патрэбы», – растлумачыў афіцыйны прадстаўнік УСК па Брэсцкай вобласці **Дзмітры Іванюк**.

### Затрымалі і жорстка збілі брата Дар'і Домрачавай

Архітэктара **Мікіту Домрачава**, брата вядомай біятланісткі, Героя Беларусі **Дар'і Домрачавай**, вельмі жорстка затрымалі 11 кастрычніка ў Мінску ў раёне вуліцы Зыбіцкай. Хлопец ехаў на ровары да мамы, ніякай сімволікі пры сабе, па яго словах, у яго не было. З РУУС яго на «хуткай» даставілі ў бальніцу, раніцай ён з'ехаў.

### Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з палітвязнямі ў СІЗА КДБ

10 кастрычніка ў СІЗА КДБ адбылася сустрэча Лукашэнкі з некаторымі палітычнымі вязнямі, у тым ліку **Віктарам** і **Эдуардам Бабарыкамі**. Сустрэча доўжылася чатыры з паловай гадзіны.

– Краіна жыве пад лозунгам «даеш дыялог». Я падумаў зыходзячы з папрокаў вашых прыхільнікаў, што самыя радыкальныя прапановы па ўсіх пытаннях... Не трэба зацыклівацца толькі на Канстытуцыі... Палова тут, як я разумею, юрысты і выдатна разумеюць, што Канстытуцыю на вуліцы не напішаш... Я гляджу на гэта шырэй, спрабую пераканаць не толькі вашых прыхільнікаў, але і ўсё грамадства ў тым, што на праблему трэба глядзець шырэй, – заявіў Лукашэнка на сустрэчы за круглым сталом у СІЗА КДБ.

### У Беларусі засталіся паслы толькі дзвюх еўрапейскіх краін

У Мінску з паслоў краін ЕС на раніцу 10 кастрычніка засталіся толькі пасол Аўстрыі і пасол Італіі. Астатнія еўрапейскія паслы адкліканыя ў свае сталіцы для кансультацый.

Дыпламатычны скандал успыхнуў 2 кастрычніка, калі МЗС Беларусі запатрабавала для пасольстваў Польшчы і Літвы ў нашай краіне скараціць колькасць дыпламатаў.

**Паводле tut.by, «Нашай Нівы», «Брэсцкай газеты», Міністэрства аховы здароўя.**

# Алег Куралесаў з Навасадаў: «Атмасферу мерапрыемства стварае праграма»

**За некалькі год Навасады Вілейскага раёна пераўтварыліся ў пляцоўку з разнастайнымі актывісцкімі мерапрыемствамі. Мы паразмаўлялі з гаспадаром пляцоўкі Алегам Куралесавым пра тое, як ладзіць івенты, для каго і як пазбегнуць памылак навічкам.**


Гаспадар сядзібы ў Навасадах Алег Куралесаў.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

**– Першае мерапрыемства, калі зразумеў, што актывізм – гэта цікава?**

– Такога не было, каб я разумеў, што актывізм – гэта цікава. Напэўна, і дагэтуль не лічу, што актывізм – гэта цікава. Людзі, якія займаюцца актывізмам, шукаюць у гэтым не штосьці цікавае або забаўляльнае. Яны хочуць зрабіць штосьці лепшым.

> Галоўнае – гэта адчуванне, што можаш зрабіць штосьці важнае і патрэбнае.

Я падзялю ўдзел у мерапрыемствах на два сегменты – першы, калі я быў юнаком, да асэнсаванага падыходу. Другі – калі пачаў фарміравацца як асоба. Прывяду прыклад з другога этапу. Адным з першых такіх мерапрыемстваў быў кінапаказ, калі я сабе на дзень нараджэння замест розных падарункаў купіў добры праектар і зрабіў кінапаказ для гасцей. Мы паказалі мультфільм на тэму экалогіі «Валлі». Прыцягнуць спікераў да імпрэзы не атрымалася. Я сам падрыхтаваў матэрыял – колькі штодзень у Беларусі адходаў, паразмаўлялі, паглядзелі мульцік.

**– Ці было штосьці новае падчас падрыхтоўкі?**

– Мая прафесійная камерцыйная дзейнасць звязаная з арганізацыяй забаўляльных мерапрыемстваў, так што складанасці не было. Патрэбнае гукавое абсталяванне меў, зрабіў афішы, Дом культуры дапамог сабраць гасцей.

**– Чаму ты вырашыў, што ладзіць імпрэзы важна менавіта тут?**

– Таму што я – тут.

**– Як счытваў рэакцыю ўдзельнікаў у першым мерапрыемстве?**

– Вынік ад гэтага ўсяго будзе гадоў можа праз дваццаць. Дзіця атрымлівае шмат інфармацыі, робіць з яе высновы. Я зрабіў нейкі ўнёсак у гэта інфармацыйнае поле. Гэта не значыць, што назаўтра яны пойдуць сартаваць смецце.

Калі пераязджаў у Навасады, разумеў, чым хачу займацца, што рабіць. У мяне ёсць пэўны багаж ведаў і магчымасці, і гэта можа быць карысна для іншых.

**– Як зразумець, што ў актывізме – тваё?**

– Трэба проста браць і рабіць. З'явілася ідэя – і ўвасабляеш яе. У працэсе разумееш, ці камфортна з гэтым, ці рэалізуешся ў гэтым. Крок за крокам – і атрымліваеш досвед.

**– З усіх арганізаваных мерапрыемстваў, што стала найбольшым расчараваннем?**

– Усё ёсць досвед. Для мяне кожнае мерапрыемства важнае. Параўноўваць іх немагчыма. На адным былі эмоцыі адны, на іншым – іншыя. Гэта не робіць іх лепшым ці горшым, яны проста розныя.

**– Як шукаць аднадумцаў – тых, хто будзе дапамагаць, і тых, хто прыйдзе ў якасці гасцей?**

– Калі ты штосьці хочаш зрабіць, даць людзям, у цябе з'яўляюцца знаёмыя, блізкія па духу. Расказваеш пра ідэю блізкім, якім гэта ідэя зразумелая. Яны расказваюць сваім сябрам і блізкім.

Важны момант – як прыцягваць удзельнікаў. Камерцыйныя мерапрыемствы яскравыя і крыклівыя. Сабраць удзельнікаў на іх можна звычайнай маркетынгавай рэкламай.

> Актывізм жа накіраваны на пашырэнне гарызонту, паляпшэнне чагосьці. І звычайна бюджэт невялікі, а людзей, якія хацелі б штосьці паляпшаць, не так шмат.

У івент-маркетынгу персанальныя запрашэнні лічацца найбольш эфектыўнымі. Гэта калі асабіста тэлефануеш знаёмым і запрашаеш. І ўсе арганізатары абтэлефаноўваюць сваіх знаёмых. Тыя сябры бяруць з сабой кампанію. Проста афішы ў такіх выпадках пакідаюць без адказу шмат пытанняў – што за акцыя, хто за гэтым стаіць, што там будзе. І незразумела, навошта збіраць смецце, калі заўтра трэба весці дзіця ў школу. Наша грамадства больш накіраванае на задавальненне фундаментальных патрэб.

**– Ці добра, калі на імпрэзу прыходзяць людзі, якія не падзяляюць каштоўнасці мерапрыемства? Ці не будзе гэта разбураць атмасферу?**

– На першы кінапаказ рабіў шмат афіш. На прагляд экалагічнага мульціка прыйшло некалькі аматараў выпіць. Чалавек, які не з гэтага кола інтарэсаў, крыху замыкаецца і назірае за працэсам. Калі ёсць сярод удзельнікаў яшчэ людзі з падобнымі інтарэсамі, то аб'ядноўваюцца ў групу. Таксама больш назіраюць.

Былі такія групы на маіх фестывалях. Для іх гэта быў новы Сусвет. Але пасля цягам года яны пра гэта гавораць, згадваюць. Такім шляхам людзі адкрываюць штосьці новае. Таму раней нават не думалі, што такім чынам можна бавіць час. А на наступны год могуць нават у нечым паўдзельнічаць.

Адкуль узяліся нашы інтарэсы? Нам у дзяцінстве паказалі некалькі варыянтаў заняткаў, і мы выбралі тое, што спадабалася. Але многае нам не паказвалі, таму гэта і выбраць не маглі.

**– Якім чынам трансліраваць людзям, якім ты бачыш мерапрыемства, каб яны зразумелі каштоўнасці і правілы паводзін?**

– Праграмай. Калі напішаш «будуць шашлычкі, скідваемся на піва» – адпаведная група і збярэцца. Праграма фарміруе атмасферу мерапрыемства. Калі пішаш, што будзе «вечар паэзіі», то сюды не паедуць школьнікі з півасам.

**– Якія эмоцыі пасля мерапрыемства?**

– Спачатку – што дзе знаходзіцца ў доме, некалькі дзён давядзіцца вяртаць рэчы на свае месцы. Толькі калі цалкам аддаеш сябе падрыхтоўцы, можаш зрабіць штосьці якасна. Пасля мерапрыемства выдыхаеш. А глыбу атрыманай інфармацыі сартуеш некалькі тыдняў.

### Некалькі лайфхакаў для арганізатараў івентаў

– Калі ў вас невялікі досвед, то бюджэт, які плануеце з камандай, памнажайце на два. Дадаецца вельмі шмат непрадбачаных расходаў. Я, маючы больш за 300 мерапрыемстваў за плячыма, складаю бюджэт і дадаю зверху ад 15 да 30 працэнтаў у запас – у залежнасці ад маштабу мерапрыемства.

Самы мінімальны тэрмін для падрыхтоўкі івента – два тыдні. Калі плануецца больш за 100 гасцей – то мінімум за месяц.

Мерапрыемствы складаюцца з наступных сегментаў: рэклама, тэхнічная частка, узгадненні, артчастка. Пажадана, каб за кожны кірунак адказвалі розныя людзі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён)

## Беларусь 1

**6.10** Існасць [СТ].
**6.35, 19.10, 21.40** Х/ф **«ПЕРЕКРЕСТОК».**
**8.30** Один день.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** Смысл жизни.
**9.40** Здоровье [СТ].
**10.30** Дача.
**11.05, 12.10** Х/ф **«ДОМ ДЛЯ КУКЛЫ».**
**15.10** Краіна.
**15.40** Х/ф **«СМЯГЧАЮЩИЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**
**21.00** Панорама.
**23.35** Х/ф **«ПОД ДОЖДЕМ НЕ ВИДНО СЛЕЗ».**
**1.40** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.50** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.30, 21.05** Телебарометр.
**9.35** Х/ф **«ЭМОДЖИ ФИЛЬМ».**
**10.55** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**11.45** Камень, ножницы, бумага.
**12.20** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.
**13.30** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В РИМЕ».**
**15.00** «Когда мы дома 2». Скетчком.
**15.30** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.
**17.15** Х/ф **«ЧУМОВАЯ ПЯТНИЦА».**
**18.55** Х/ф **«БЛИЗКО К СЕРДЦУ».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ: НА КРАЮ СВЕТА».**
**0.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 14.50, 20.20** Навіны культуры.
**8.20, 15.10** «Гэты дзень».
**8.25** «Опять двойка». Мультфільм.
**8.45** «Цешча». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Беларуская кухня». Свініна, запечаная з бульбай.
**10.25** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**10.50** «Уцёсаў. Песня даўжынёю ў жыццё». Шматсерыйны мастацкі фільм.
**14.25** «Навукаманія».
**15.15** «Фарбы памяці». Мастак Пётр Дурчын.
**15.40** «Салодкая жанчына». Мастацкі фільм.
**17.20** «Камертон». Актрыса Алена Барзова.
**17.45** «Свaімі словамі». Тэлевіктарына.
**18.25** «Нядзельная ноч». Мастацкі фільм [СТ].
**20.05** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госця — выкладчык, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Святлана Крывашэева.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Здаецца кватэра з дзіцем». Мастацкі фільм [СТ].
**22.30** «Арт-гісторыі». Мастак Васіль Пукіраў і яго карціна «Няроўны шлюб» [СТ].
**22.55** «Класіка». Канцэрт Юрыя Гільдзюка.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00, 20.00** Наши новости.
**7.15** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00** Премьера. «101 вопрос взрослому».
**9.15** Х/ф **«ГРЕХИ НАШИ».**
**10.55** «Видели видео?».
**13.40** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.
**14.40** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**16.20** «Ледниковый период». Новый сезон.
**18.20** «Ледниковый период». Новый сезон. Продолжение.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Сегодня вечером».
**22.45** Премьера. «Лобода. Суперстар-шоу!».

## СТВ

**6.10, 23.10** «Секретные территории».
**7.55** «Анфас».
**8.15** «Самая полезная программа».
**9.05** «Великие тайны».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00, 1.25** Документальный проект.
**12.05, 13.40, 16.40** Т/с **«ДЖОКЕР».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ-спорт».
**20.05** Документальный спецпроект.
**21.45** «Территория заблуждений».

## Мир

**5.00, 7.50** Мультфильмы.
**7.20** «Секретные материалы».
**8.00** Премьера. «Знаем русский».
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.10** Х/ф **«ДЕТИ ДОН-КИХОТА».**
**11.50, 16.15** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ».**
**16.00, 19.00** Новости.
**16.35, 19.15** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ».**
**21.25** Т/с **«САКВОЯЖ СО СВЕТЛЫМ БУДУЩИМ».**
**1.25** Х/ф **«НОВЫЕ АМАЗОНКИ».**
**2.55** Х/ф **«ПОДКИДЫШ».**
**4.05** Х/ф **«СЛОНЫ-МОИ ДРУЗЬЯ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05** Сегодня. Главное.
**6.10** «Наукомания».
**6.45** «50 рецептов первого».
**7.20** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.50** «Города Беларуси».
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Главная дорога.
**10.55** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**11.45** Квартирный вопрос.
**12.45** Истории спасения.
**13.15** «Поедем, поедим!».
**14.00** Артур Смольянинов, Иван Охлобыстин, Александр Головин, Софья Ардова и Алексей Барабаш в историческом детективе «Ростов».
**16.20** «Секрет на миллион». Никита Джигурда.
**18.05** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.05** «Ты супер!» Новый сезон.
**22.35** Х/ф **«ВРЕМЯ ГРЕХОВ».**
**0.20** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «По секрету всему свету».
**7.30** Х/ф **«СОЛНЕЧНЫЙ УДАР».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.15** «Наше дело».
**11.30** «Сто к одному».
**12.20** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.20** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.20** Х/ф **«ГУВЕРНАНТКА».**
**16.15** Х/ф **«ДОКТОР УЛИТКА».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«ЧУЖАЯ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**7.05, 2.55** Клиент. **9.25** Невидимка. **11.15** Мамма MIA! **13.15** Дорогой Джон. **15.10** Чудо. **17.10** Останься. **19.00** Одноклассники. **20.45** Одноклассники 2. **22.35** Всё или ничего. **0.30** Двухсотлетний человек. **5.00** Она.

### TV1000 ACTION

**7.35** Гладиатор. **10.40, 3.05** Война Богов: Бессмертные. **12.30, 5.10** Боги Египта. **14.35** Последний киногерой. **16.55** Петля времени. **19.00** Миссия: Невыполнима. **20.55** Миссия: невыполнима 2. **23.00** Миссия: невыполнима 3. **1.05** Хэнкок.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.15** Рубеж. **9.10** Привычка расставаться. **10.35** Джунгли. **12.00** 8 новых свиданий. **13.30** 8 лучших свиданий. **15.10** Срочно выйду замуж. **17.10** Давай разведёмся! **19.00** Неуловимые. **20.35** Неуловимые: Последний герой. **22.00** Неуловимые: Бангкок. **23.40** Неуловимые: Джекпот. **1.20** Обитаемый остров. **3.35** Обитаемый остров: Схватка. **5.30** Рок-н-ролл для принцесс.

### ТВ3

**6.00, 9.15** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **10.00** Х/ф **«БЕТХОВЕН: БОЛЬШОЙ БРОСОК». 12.00** «Лучший пёс». **13.00** Х/ф **«СФЕРА». 15.45** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: СУДНЫЙ ДЕНЬ». 18.30** Х/ф **«ПРОМЕТЕЙ». 21.00** Х/ф **«К ЗВЁЗДАМ». 23.30** Х/ф **«ДУМ: АННИГИЛЯЦИЯ». 1.30** Х/ф **«НИЧЕГО СЕБЕ ПОЕЗДОЧКА». 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«КАПЛЯ СВЕТА». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УХОДЯЩАЯ НАТУРА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ИНКВИЗИТОР». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ИСКУПЛЕНИЕ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.20** Х/ф **«ТАЧКА НА МИЛЛИОН». 3.25, 21.00** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 3». 4.55** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ». 6.45** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА». 8.25** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА: ОПЕРАЦИЯ ЯСТРЕБ». 10.30** Х/ф **«ОПАСНЫЙ БИЗНЕС». 12.30** Х/ф **«УДАЧИ, ЧАК». 14.20** Х/ф **«ЗАКОНУ ТУТ НЕ МЕСТО». 16.10** Х/ф **«ВЫШИБАЛА». 17.50** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО». 19.30** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2». 22.30** Х/ф **«МУВИ 43».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.40** Т/с **«БЕСЫ». 3.05, 3.55, 4.50, 5.45, 6.40, 7.35, 8.30, 9.20, 10.15, 11.10, 12.05, 12.55** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ». 13.50, 14.55, 16.00, 17.00, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.05, 23.05** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ: ПОСЛЕДНИЙ БОЙ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.25** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **12.05, 21.00, 2.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **13.40** Х/ф **«БЕЗ ГРАНИЦ». 15.35** Х/ф **«ГОРДОСТЬ И ПРЕДУБЕЖДЕНИЕ И ЗОМБИ». 17.35** Х/ф **«ОБЛАЧНО, ВОЗМОЖНЫ ОСАДКИ В ВИДЕ ФРИКАДЕЛЕК». 19.15** Х/ф **«ОБЛАЧНО... 2: МЕСТЬ ГМО». 22.30** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ». 0.15** Х/ф **«ДАЛЬШЕ ПО КОРИДОРУ». 2.00** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **4.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**5.45** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Пары. Короткая программа. **7.10** Вот это спорт! **7.25** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Танцы на льду. Ритмический танец. **8.55** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Женщины. Короткая программа. **10.30** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Мужчины. Короткая программа. **12.05** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Юность-Минск — Неман (Гродно). **14.20** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Хэм — Манчестер Сити. **16.20** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 27-й тур. БАТЭ (Борисов) — ФК Витебск. В перерыве Спорт-центр. **18.20** Мир английской премьер-лиги. **18.50** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед — Челси. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Женщины. Произвольная программа. **23.00** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Мужчины. Произвольная программа. **0.50** Плавание. Международный турнир.

### EUROSPORT

**0.30, 6.00, 11.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 19-й этап. **2.30, 8.00, 18.50** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. 1/2 финала. **4.00, 9.30** Велоспорт. «Вуэльта». 4-й этап. **13.25** Велоспорт. «Джиро д'Италия» и «Вуэльта». Мультиплекс. **20.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 20-й этап. **22.30** Велоспорт. «Вуэльта». 5-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.45, 1.05** Испытание на прочность. **6.30, 8.45, 12.50, 15.00, 18.05, 22.25, 0.15, 3.05** Итоговые новости. **6.40, 8.00, 17.15** Металломщики. **7.30, 14.30, 1.35** Тест на «Драйве». **9.05, 2.35** Сити-тестер. Эксклюзив. **9.35** Эконом-тест. **9.55** Тест в большом городе. **11.05** По дорогам Второй мировой. **11.35, 3.55** Автолайф. **11.55, 19.05** Вторичка. **12.10, 19.25, 22.40, 3.20** Тест с дядей Ваней. **13.10, 20.05, 23.30, 4.10** Супергрузовики. **13.55, 0.35** Тебе водить! Тебе лечить! **15.20, 20.50, 4.55** Автомобильные музеи мира. **15.55** Норильск — Диксон. Есть рекорд! **16.25, 22.05** Авто: вторые руки. **18.20** Советы юриста. **21.25, 5.25** Байки про байки.

### EXPLORE

**6.00, 16.15, 21.20** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.15, 8.05, 19.40** Невероятная рыбалка. **9.00, 9.25, 9.50, 10.15, 14.35, 15.00** Нефритовая лихорадка. **10.40, 11.25** Ржавые тачки на прокачку. **12.15, 13.00, 13.50, 18.55, 1.30, 2.20, 3.05, 3.50** Австралийские золотоискатели. **15.25, 18.05** Поисковая команда в Австралии. **17.00** Австралийское мега-метро. **20.30** Речные чудовища. **22.10** Чудовищный карп. **22.55, 23.50** Большой улов. **0.40** Тренировка по древним традициям. **4.40** Выживание в лесу. **5.25** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.00** Невероятные изобретения. **6.25, 3.00, 3.45, 4.30** Музейные тайны. **7.15** Титаник: истории из глубины. **8.00, 21.50** Операция «Золотая лихорадка». **8.55** Кельты: кровью и железом. **10.00, 11.00** Тайны мертвых. **11.55** Владыки Тихоокеанского побережья. **13.00, 14.05, 15.10, 16.15, 17.20** Расшифровка тайн. **18.25, 19.15** Земля больших кошек. **20.10** Разгадка тайны пирамид. **21.00** Оружейники: искусство войны. **22.45** Тайны музеев. **23.30** Запретная история. **0.15** Могилы викингов. **1.05, 2.00** Тридцатилетняя война — Железный век. **5.15, 5.40** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.00, 4.00, 4.30** Уличный ветеринар. **6.25, 7.15, 8.00, 8.45, 9.35, 3.10** Ветеринар из Йоркшира. **10.20, 10.45, 11.10, 11.35, 12.00** Спасение диких медведей. **12.25, 13.15, 14.10** Выживание в дикой природе. **15.00** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **15.50** Загадочная планета. **16.40** Дикая Латинская Америка. **17.35** Жилища животных: прирожденные инженеры. **18.40** Невероятные животные. **19.30** Опасные исполины. **20.25** Гениальные морские охотники. **21.20, 22.10, 1.35, 4.55** Мутации погоды. **22.55** Рассказы о бурях. **23.55** Невероятные встречи с животными. **0.45** Хищные питомцы. **2.20** Анатомия крупнейших животных.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**7.30, 2.35, 3.20, 4.05** Авто-SOS. **8.25** Машины: Разобрать и продать. **9.15, 10.05** Невероятные машины. **10.55, 11.20, 5.45** Сделать за один день. **11.45, 12.10, 12.35, 13.00, 13.30, 13.50** Фабрика еды. **14.20, 15.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **16.00, 16.50, 17.40, 18.30, 19.20, 20.10** Свидетели катастроф. **21.00, 21.50, 22.40, 23.30** Суперсооружения Третьего рейха. **0.20** Служба безопасности аэропорта: Перу. **4.55** Осушить океан.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.10, 11.00, 13.10, 14.15, 15.05, 16.10, 17.15, 18.00, 19.05, 20.10, 21.15, 23.10, 0.00, 1.05, 2.05, 3.15, 4.00, 5.00** Охота с луком. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.40, 11.35, 12.35, 13.40, 14.45, 15.35, 16.40, 17.45, 18.35, 19.40, 20.40, 21.45, 22.50, 23.40, 0.30, 1.35, 2.40, 3.45, 4.30, 5.30** Кухня с Сержем Марковичем. **8.00** На рыбалку с охотой. **12.05, 22.20** С ружьём на плече.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Варенье. **6.45, 10.55, 14.50, 18.45, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 15.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30** Огород круглый год. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.50, 0.40** Домашние заготовки. **8.50, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Домик в Америке. **9.20, 3.40** Букварь дачника. **9.35, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Сельские профессии. **11.10** Огород круглый год. **11.30** Огород круглый год. Осенние работы. **11.45** Усадьба будущего. **13.05** Праздник в дом. **15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **16.45, 20.40, 4.50** С пылу с жару. **1.55** Сладкая жизнь.

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«ПЕРЕКРЕСТОК».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ПОД ДОЖДЕМ НЕ ВИДНО СЛЕЗ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Родные люди.

**15.30** Х/ф **«1418 ДНЕЙ. ИСТОРИЯ ПОБЕДЫ».**

**16.10** Один день.

**16.40, 19.10** Х/ф **«БУДЬ ЧТО БУДЕТ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«СМЯГЧАЮЩИЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.50** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.35, 19.40** Телебарометр.

**9.40** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.25** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**11.25** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.25** Х/ф **«БЛИЗКО К СЕРДЦУ».**

**14.30** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.00** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.50** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МАГАЗИННЫЕ ВОРИШКИ».**

**23.35** Х/ф **«ЧУМОВАЯ ПЯТНИЦА».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.15, 20.20** Навіны культуры.

**8.20** «Гэты дзень».

**8.25** «Две сказки». Мультфільм.

**8.40** «Здаецца кватэра з дзіцем». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пшанічная качка.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Нядзельная ноч». Мастацкі фільм [СТ].

**13.25** «Майстар. Рэжысёр Віктар Тураў». Дакументальны фільм.

**14.35** **Т/ф «ПАНЕ КАХАНКУ».**

**17.10** «Беражыце жанчын». Мастацкі фільм [СТ].

**19.30** «Кадры жыцця». Сцэнарыст, рэжысёр Міхаіл Жданоўскі.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Уцёсаў. Песня даўжынёю ў жыццё». Шматсерыйны мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».

**9.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**10.00** «Видели видео?».

**11.40** К 75-летию Никиты Михалкова. «Наедине со всеми».

**12.30** К 75-летию Никиты Михалкова. Премьера. «Движение вверх».

**13.55, 16.20** Х/ф **«СТАТСКИЙ СОВЕТНИК».**

**18.20** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?» Осенняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Х/ф **«ГРЕХИ НАШИ».**

## СТВ

**6.30, 23.50** «Секретные территории».

**8.15** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.30, 13.40, 16.40** Т/с **«ДЖОКЕР. ОПЕРАЦИЯ «КАПКАН».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.50** Документальный спецпроект.

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«СЛОНЫ-МОИ ДРУЗЬЯ».**

**6.55** Мультфильмы.

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ВЕТРЕНАЯ ЖЕНЩИНА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**23.35, 1.00** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ».**

**4.15** Т/с **«ПЕРВОЕ ПРАВИЛО КОРОЛЕВЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05** «Наукомания».

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.40** «Дачный ответ».

**12.35** Истории спасения.

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.00** Исторический детектив «Ростов».

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.25** Ты не поверишь!

**22.20** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЧУЖАЯ».**

**10.30, 11.30** Х/ф **«НЕ УХОДИ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.40** Х/ф **«ЦЕНА ИЗМЕНЫ».**

**16.35** Х/ф **«ЛИНИЯ ЖИЗНИ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.25** Х/ф **«Я ПОДАРЮ СЕБЕ ЧУДО».**

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**7.15** Гномео и Джульетта. **8.55** Двухсотлетний человек. **11.10** Всё или ничего. **13.10** Одноклассники. **15.00** Одноклассники 2. **16.45** Во имя короля: История осады подземелья. **19.00, 5.00** Робин Гуд: Начало. **21.00** Робин Гуд. **23.25** Робин Гуд: Принц воров. **1.55** Забытое. **3.25** Что скрывает ложь.

### TV1000 ACTION

**7.35** Хэнкок. **9.15** Взрывная блондинка. **11.15** Миссия: Невыполнима. **13.05** Миссия: невыполнима 2. **15.15** Миссия: невыполнима 3. **17.30** Миссия невыполнима: Протокол Фантом. **19.45** Миссия невыполнима: Племя изгоев. **22.05** Миссия невыполнима: Последствия. **0.30** Судная ночь. **2.00** Судная ночь 2. **3.55** Потрошители. **5.10** Немыслимое.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.40** Рок-н-ролл для принцесс. **8.00** Неуловимые. **9.30** Неуловимые: Последний герой. **10.50** Неуловимые: Бангкок. **12.15** Неуловимые: Джекпот. **13.45** Три богатыря и Шамаханская царица. **15.05** Три богатыря на дальних берегах. **16.20** Три богатыря: Ход конём. **17.40** Урфин Джюс возвращается. **19.05** Притяжение. **21.05** Время Первых. **23.40** Гагарин. Первый в космосе. **3.30** Тайна печати дракона. **5.30** Джунгли.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.00** «Новый день». **8.30** Х/ф **«БЕТХОВЕН: БОЛЬШОЙ БРОСОК». 10.30** Х/ф **«ДУМ: АННИГИЛЯЦИЯ». 12.30** Х/ф **«ПРОМЕТЕЙ». 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00** Т/с **«ЭПИДЕМИЯ». 23.00** Х/ф **«К ЗВЁЗДАМ». 1.30** Х/ф **«ПАНДОРУМ». 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ИСКУПЛЕНИЕ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УХОДЯЩАЯ НАТУРА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ИНКВИЗИТОР». 0.00, 1.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 2.00, 3.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.20** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ». 2.10** Х/ф **«СТРАНА ЧУДЕС». 4.00** Х/ф **«НЕВЕСТА ЛЮБОЙ ЦЕНОЙ». 5.50** Х/ф **«КАК ОТМЫТЬ МИЛЛИОН». 8.15** Х/ф **«КРУТАЯ ДЖОРДЖИЯ». 10.25** Х/ф **«ДЕДУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 12.20** Х/ф **«НЕ МОГУ ДОЖДАТЬСЯ». 14.15** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА». 15.55** Х/ф **«ГЕРОЙ СУПЕРМАРКЕТА». 17.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ». 19.30** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 21.25** Х/ф **«ОХОТНИК ЗА ГОЛОВАМИ». 23.30** Х/ф **«СУТЕНЕР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.10** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ: ПОСЛЕДНИЙ БОЙ». 2.10, 3.40, 4.30, 5.20, 6.20, 7.15, 8.15, 9.20, 10.15, 11.05, 12.05, 13.00, 14.00, 15.00, 15.55, 16.55, 17.45, 18.35, 19.35, 20.30** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 21.20, 22.25, 23.25** Т/с **«АННА ГЕРМАН».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.25** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ЧЕРЕЗ ВСЕЛЕННЫЕ». 15.05, 22.00, 0.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **17.10** Х/ф **«ХЭНКОК». 19.00** Х/ф **«ВЕНОМ». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.45** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **1.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.10** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **3.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.20** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Танцы на льду. Произвольный танец. **8.00** Фигурное катание. Гран-при. Лас-Вегас. Пары. Произвольная программа. **9.25** Теннис. WTA. Острава. 1/2 финала. **11.35** Вот это спорт! **11.50** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **12.20** Пит-стоп. **12.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 27-й тур. Неман (Гродно) – Славия (Мозырь). **14.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 27-й тур. РЦОР-БГУ (Минск) – Шахтер (Солигорск). **16.50** Овертайм. КХЛ. **17.10** Хоккей КХЛ. Динамо-Минск – Северсталь (Череповец). В перерывах Овертайм. КХЛ. **19.30** Футбол. Чемпионат Англии. Вулверхэмптон – Ньюкасл. В перерыве Спорт-центр. **21.30** Итоги недели. **22.15** Теннис. WTA. Острава. Финал. **23.50** Плавание. Международный турнир.

### EUROSPORT

**0.30, 6.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 20-й этап. **2.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. 1/2 финала. **4.00** Велоспорт. «Вуэльта». 5-й этап. **8.00, 17.15** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **9.30** Велоспорт. «Тур Фландрии». **10.40, 18.35** Велоспорт. Париж – Рубэ. **20.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 21-й этап. **22.30** Велоспорт. «Вуэльта». 6-й этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.55, 17.20, 0.20** Испытание на прочность. **6.30, 14.25, 18.55, 1.40** Тест на «Драйве». **7.00, 17.50** Металлоломщики. **7.45, 9.45, 13.35, 17.00, 18.40, 23.15, 1.20, 4.00** Итоговые новости. **8.00, 9.05** Советы юриста. **8.45** Вторичка. **10.05, 11.00** Тест в большом городе. **10.40** Все включено. Эксклюзив. **11.35** По дорогам Второй мировой. **12.05, 19.30, 22.30, 3.10** Тест с дядей Ваней. **12.45, 20.10, 23.35, 4.15** Супергрузовики. **14.55, 2.40** Сити-тестер. Эксклюзив. **15.30, 21.00, 5.00** Автомобильные музеи мира. **16.05** Байки про байки. **16.45, 22.05** Авто: вторые руки. **21.35, 5.35** Норильск – Диксон. Есть рекорд! **22.25** Обновление. **3.45** Автолайф.

### EXPLORE

**6.00, 9.55** Рыбалка со звездами. **6.30, 7.20, 8.15, 9.05** Речные чудовища. **10.45, 11.10, 21.15, 21.40, 22.05, 22.30** Нефритовая лихорадка. **11.35** Австралийское мега-метро. **12.40** Поисковая команда в Австралии. **13.25, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.55, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **0.35** Тренировка по древним традициям. **1.25, 2.15** Дикая Монтана. **3.00, 3.40** Лесные люди. **4.25, 5.15** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.20** Невероятные изобретения. **6.45, 7.30, 2.55, 3.40, 4.25** Музейные тайны. **8.15, 9.05, 11.40, 12.30** Запретная история. **9.55, 10.45** Земля больших кошек. **13.15** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **14.15, 15.15** Тайны мертвых. **16.15** Владыки Тихоокеанского побережья. **17.20** Расшифровка тайн. **18.25, 21.00** Операция «Золотая лихорадка». **19.20** Боевые корабли. **20.10** Титаник: истории из глубины. **21.55** Разгадка тайны пирамид. **22.45** Оружейники: искусство войны. **23.35, 0.25** Могилы викингов. **1.10** Тридцатилетняя война – Железный век. **2.05** Мифы и чудовища. **5.10, 5.35** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.05, 6.55, 7.45, 8.40, 17.50, 18.45, 22.10, 23.00** Выживание в дикой природе. **9.30** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **10.20, 11.15, 19.35, 20.30** Бескрайняя Африка. **12.05, 13.10** Великая американская оттепель. **14.10, 21.20** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **15.00** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **16.05** Гениальные морские охотники. **17.00** Невероятные животные. **23.50** Невероятные встречи с животными. **0.40** Хищные питомцы. **1.30, 5.00** Мутации погоды. **2.15** Анатомия крупнейших животных. **3.20** Ветеринар из Йоркшира. **4.05, 4.35** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.40, 3.35, 4.20, 5.05** Авто-SOS. **8.30** Машины: Разобрать и продать. **9.25, 10.15** Европа с высоты птичьего полета. **11.05** Женщины-воины викингов. **11.55, 12.45, 13.35** Инстинкт выживания. **14.25, 14.50** Горячие границы: Латинская Америка. **15.15** Служба безопасности аэропорта: Перу. **17.40, 18.30, 19.20, 20.10, 21.00, 21.50, 22.40** Путешествия с Гордоном Рамзи. **23.30, 23.55, 0.20, 0.45, 1.10** Фабрика еды. **1.35, 5.55** Сделать за один день. **2.00, 2.45** Осушить океан.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 22.05, 2.05** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 22.35, 2.35** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.55, 23.00, 3.10** Рыбалка в России. **7.25, 15.20, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 15.50, 20.00, 0.00, 4.10** Рыбалка 360. **8.25, 12.25, 16.20, 20.30** Давай зарубимся! **8.40, 12.35, 16.35, 20.45** Популярная охота. **8.55, 1.05** С ружьём на плече. **9.25, 13.25, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Мир рыболова. **11.25, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **12.55, 16.55, 5.05** Рыбалка без границ. **13.55, 18.00** Охота и рыбалка в. **14.50, 19.00** Мой мир – рыбалка. **18.30** Профессиональная рыболовная лига. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.35, 4.35** Егерский кордон. **2.55** Стендовая стрельба. Олимпийский огонь.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.00, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.30, 18.30, 22.25, 2.40** Варенье. **6.45, 10.55, 14.50, 18.45, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 11.10, 15.05, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.25, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 16.40, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50** Праздник в дом. **9.20, 3.40** Букварь дачника. **9.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Сельские профессии. **12.50** Домашние заготовки. **13.05, 20.55, 0.55, 5.05** Домик в Америке. **13.35** Огород круглый год. **16.55** Огород круглый год. **17.10** Огород круглый год. Осенние работы. **1.55** Сладкая жизнь.



Фота gazetagazeta.com.

Атрад ЗОМО, які займаўся падаўленнем пратэстаў у Польшчы.

# Як скончыў міліцэйскі спецназ камуністычнай Польшчы

**Напрыканцы 1950-х у Польшчы стварылі сілавую арганізацыю, якая ўваходзіла ў склад МУС, – ЗОМО. Па сутнасці, ЗОМО павінна была займацца затрыманнем небяспечных злачынцаў, ліквідаваць надзвычайныя сітуацыі, аднак супрацоўнікаў насамрэч выкарыстоўвалі для падаўлення пратэстаў і разгону дэманстрацый.**

«Рэгіянальная газета» расказвае гісторыю польскага ЗОМО і як яна завяршылася пасля знішчэння камуністычнага ладу ў Польшчы, а таксама, што адбылося пасля з байцамі гэтай сілавой структуры.

### Як стварылі ЗОМО

Летам 1956 года ў Познані прайшлі масавыя дэманстрацыі з-за цяжкай эканамічнай абстаноўкі і незадаволенасцю камуністычнай уладай. Пратэст падавілі сілавікі. Пасля пратэстныя акцыі адбыліся ўвосень у Быдгашчы і ўзімку ў Шчэціне. Для польскага ўрада гэтыя народныя выступленні сталі штуршком для стварэння асобых падраздзяленняў міліцыі.

Афіцыйна ЗОМО стварылі ў 1957 годзе.

ЗОМО выкарыстоўвалі амаль ва ўсіх падаўленнях пратэстаў у 1960-я гады. У 1970 годзе супрацоўнікі ЗОМО актыўна ўдзельнічалі ў падаўленні пратэстаў рабочых на поўначы Польшчы. Улада вырашыла, што пратэсты аказаліся буйнымі, таму ўвяла войскі. Пратэст падавілі, але коштам шматлікіх ахвяр. Таму ў наступным ЗОМО атрымаў своеасаблівы карт-бланш на сілавы ўдзел у пратэстах – армію цяпер выкарыстоўвалі значна менш.

У 1976 годзе падчас падаўлення пратэстаў у Радоме зафіксаваны метад ścieżka zdrowia («шлях здароўя») – збіццё затрыманых дубінкамі ў два міліцэйскія шэрагі.

1980-я гады ў Польшчы – гэта «Салідарнасць». 14 жніўня 1980 года пачаўся страйк на верфі ў Гданьску. Страйк перайшоў у буйную пратэстную хвалю, якая ахапіла ўсю Польшчу. Тады ўлада не выкарыстоўвала ўзброеныя атрады ЗОМО. Дыялог улады і пратэстнага руху прывёў да стварэння незалежнага прафсаюза «Салідарнасць». Аднак хваля гвалту з боку польскіх сілавікоў не спынілася.

**Вясной 1981 года ў Быдгашчы байцы ЗОМО (і іншыя сілавікі) збілі актывістаў «Салідарнасці».**

У адказ на правакацыю польскай улады і сілавікоў тады прайшоў адзін з найбуйнейшых страйкаў 1980-х, у якім прынялі ўдзел практычна ўсе рабочыя краіны.

У 1981-1983 гадах у Польшчы ўвялі ваеннае становішча. Атрады ЗОМО сыгралі адну з ключавых роляў у гісторыі разгону, гвалту і забойстваў пратэстоўцаў. Яны займаліся захопам і падаўленнем рабочых на прадпрыемствах, якія баставалі, арыштоўвалі актывістаў.

Узімку 1983 года на шахце Вуек (Катавіце) баставалі рабочыя. На падаўленне традыцыйна кінулі атрады ЗОМО. Спачатку каля шахты вадамётамі разагналі людзей, значная частка якіх была сваякамі шахцёраў. Потым пачаўся штурм тэрыторыі шахты: выкарысталі спецсродкі са слёзатачывым газам (шмат шахцёраў атруціліся). Тэрыторыю шахты таранілі танкі, за імі ішлі супрацоўнікі ЗОМО. Шахцёры аказалі супраціўленне, пацярпелі міліцыянеры і вайскоўцы, якія займаліся штурмам.

**Адзін з атрадаў ЗОМО пачаў страляць – забілі 9 шахцёраў, 21 паранілі.**

Ужо тады супрацоўнікаў ЗОМО называлі гестапаўцамі, а саму арганізацыю – гестапа. У Польшчы з'явілася пагардлівыя выразы zomole (зневажальная мянушка супрацоўнікаў) і bijące serce partii («сэрца партыі, якое б'ецца»).

У 1988 годзе падчас хвалі страйкаў польскія ўлады зноўку выкарысталі байцоў ЗОМО. Таксама былі шматлікія факты збіцця пратэстоўцаў, ужывалі спецсродкі.

Напрыканцы 1980-х камуністычная ўлада ў Польшчы значна аслабла. «Салідарнасць» фактычна перамагла на выбарах у 1989 годзе, а атрады ЗОМО ўжо не выкарыстоўвалі ў карных аперацыях.

### Скасаванне ЗОМО і суды

У 1989 годзе міністр МУС Польшчы **Кішчак** расфарміраваў сістэму ЗОМО. Першапачаткова гаворка ішла толькі пра перайменаванні, але праз паўгода загадам новага міністра **Казлоўскага** ЗОМО была перафарміраваная ў новую структуру. Фармальна ў яе былі тыя ж задачы, але без карна-палітычных функцый, таму атаясамліваць яе з ЗОМО будзе няправільна.

**У сучаснай Польшчы дзейнасць ЗОМО разглядаецца як злачынная дзейнасць. Супрацоўнікаў і ніжэйшы афіцэрскі склад прыцягнулі да крымінальнай адказнасці.**

Напрыклад, адказныя за расстрэл на шахце Вуек атрымалі рэальныя тэрміны ў турме. На судовых працэсах супрацоўнікі ЗОМО спасылаліся на атрыманыя загады ад кіраўніцтва. Некаторыя супрацоўнікі ЗОМО працягнулі працу ў польскай паліцыі.

**Настасся УТКІНА.**

● КАЛЯНДАР

**16 КАСТРЫЧНІКА**

**1988.** На цэнтральным тэлебачанні СССР пачаўся паказ тэлесерыяла «Рабыня Ізаўра» – першага бразільскага серыяла на савецкім тэлебачанні.

**17 КАСТРЫЧНІКА**

**1865.** У фальварку пераходы паблізу Смаргоні нарадзіўся **Люцыян Жалігоўскі**, польскі вайсковы і палітычны дзеяч, генерал.



**18 КАСТРЫЧНІКА**

**1920.** Спыніліся ваенныя дзеянні ў ходзе савецка-польскай вайны 1919-1921 гадоў.

**19 КАСТРЫЧНІКА**

**1812.** Напалеон Банапарт пакідае Маскву.

**20 КАСТРЫЧНІКА**

**1920.** На беларускай нацыянальна-патрыятычнай нарадзе ў Рызе пад кіраўніцтвам **Вацлава Ластоўскага** створаны блок беларускіх партый для барацьбы супраць Савецкай улады і польскай акупацыі за незалежную і непадзельную Беларусь.

**21 КАСТРЫЧНІКА**

**1833.** Нарадзіўся **Альфрэд Нобель**, шведскі хімік, інжынер, заснавальнік Нобелеўскай прэміі.



**1878.** Нарадзіўся **Уладзімір Пічэта**, беларускі гісторык, першы рэктар БДУ.

**1933.** Украінскі нацыяналіст **Мыкола Лэмык** у знак пратэсту супраць стварэння галадамору ва Украіне забіў начальніка канцылярыі савецкага консульства ў Львове Аляксея Майлава.

**22 КАСТРЫЧНІКА**

**1988.** У Вільні пачаўся ўстаноўчы з'езд Літоўскага руху за перабудову Саюдзіс.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Ежа нармальная, у чацвер – лазня». Пяскова, якога судзілі за гвалт над амапаўцамі, упершыню наведалі ў жодзінскай турме

**10 кастрычніка дзяўчына Паўла Пяскова Вераніка Французава разам з сябрамі наведала яго ў жодзінскай турме. «Рэгіянальная газета» расказвае, як прайшла першая сустрэча асуджанага маладзечанца з яго дзяўчынай.**

30 верасня суддзя Маладзечанскага раённага суда **Вікторыя Паляшчук** асудзіла **Паўла Пяскова** на тры гады і тры месяцы, а **Уладзіслава Еўсцігнеева** на тры гады выпраўленчай калоніі па артыкуле 363 «Супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак». 19 чэрвеня падчас ланцуга салідарнасці маладзечанцы ўдзельнічалі ў сутычцы з амапаўцамі, якія затрымлівалі **Мікалая Алейніка**.

Цяпер Пяскоў і Еўсцігнееў часова знаходзяцца ў жодзінскай турме, іх павінны этапаваць у выпраўленчую калонію, аднак дагэтуль невядома, у якую.

Да жодзінскай турмы Вераніка з сябрамі прыехалі ў 10 гадзін. Каля ўстановы дзяжураць валанцёры. Яны кожны дзень чакаюць пратэстоўцаў, якіх затрымліваюць на акцыях: даюць ежу, гарачы чай ці каву, вязуць дадому.

Валанцёры адразу падышлі да маладзечанцаў, якія выйшлі з машыны.

– Калі ласка, адыдзіце ад увахода. Вось зайдзіце за бус, каб вас не ўбачылі. У нас дамоўленасці з адміністрацыяй турмы, не трэба, каб яны бачылі шмат людзей тут. Нам ужо казалі, што могуць прыйсці вайскоўцы. Разумееце, гэта ж не Акрэсціна, дзе толькі ізалятар. У жодзінскай турме сядзяць злачынцы, – расказаў адзін з валанцёраў.

Яны таксама папрасілі не здымаць на камеру саму турму. Па іх словах, таму што вартаўнікі будуць хвалявацца з-за гэтага.

– Нейкая тут атмасфера… надобрая, – размаўляюць паміж сабой сябры Паўла Пяскова ў 20 метрах ад увахода ў турму.

Валанцёры расказваць, што ў суботу павінны выйсці 13 чалавек. Кажуць, што пра суд над Пясковым і Еўсцігнеевым ведаюць, чыталі ў СМІ. Пашкадавалі хлопцаў, маўляў, вельмі вялікія тэрміны далі.

Пасля прыезду маладзечанскіх наведнікаў да шлагбаўма турмы пад'ехаў міліцэйскі аўтамабіль, супрацоўнікі не праехалі далей, а калі шлагбаўм паднялі, з машыны не выходзілі. У хуткім часе прыехаў яшчэ адзін міліцэйскі аўтамабіль. З яго выйшаў мужчына ў цывільным, прадставіўся намеснікам начальніка жодзінскага РАУС **Міхаілам Мурашкіным**. Пацікавіўся, ці ўсё добра ў валанцёраў, а потым сказаў, што пакіне каля турмы двух супрацоўнікаў.

– Гэта толькі дзеля вас. Увесь час, што тут стаім, ніколі міліцыянеры не прыязджалі, – падзяліўся валанцёр з сябрамі Паўла.

У гэты час Вераніка пайшла падаваць заяву на сустрэчу з Паўлам, панесла перадачу. Перадачу прынялі не ўсю: не ўзялі апошні нумар «Рэгіянальнай газеты», вэнджанае сала і соль. Вераніка не ведае, чаму не ўзялі сала і соль, а вось друкаваныя рэчы ўвогуле не бралі – ні кнігі, ні часопісы турэмная адміністрацыя не прапусціла.

Родныя Уладзіслава Еўсцігнеева таксама прыехалі наведаць хлопца. Яны былі ў жодзінскай турме раней, чым Вераніка.

– Мне сказалі, што нельга будзе сустрэцца з Пашам. Гавораць, што сваякі Улада прыехалі раней, а так як яны змоўшчыкі і ідуць па адным крымінальным артыкуле, то ў Пашы ніякіх сустрэч сёння не будзе.

Сябры Пяскова абурыліся, частка з іх пайшла дамаўляцца аб сустрэчы разам з Веранікай да вартаўнікоў.

Атрымалася так: Вераніку пусцяць на паўгадзіны, але ўжо пасля сустрэчы родных з Еўсцігнеевым. Вераніка расказала, што тэлефанавала за дзень у турму, каб даведацца, у колькі можна прыехаць на сустрэчу. Па яе словах, іх праводзяць ад 8 да 18 гадзін. Аднак насамрэч



Вераніка перад сустрэчай з Паўлам.




Тое, што забаранілі перадаць Паўлу: газета, сала, соль.

спатканні асуджаных са сваякамі дазваляюць пасля абеду. Гэта пацвердзілі і валанцёры.

– Дазволілі. Пусцяць на паўгадзіны пасля дзвюх. Спачатку пусцяць сястру і маці Улада, потым мяне да Пашы. А па тэлефоне казалі, што сустрэча – гэта дзве гадзіны, – расказала Вераніка пасля чарговай гутаркі з прадстаўнікамі адміністрацыі жодзінскай турмы.

Калі Вераніка даведалася, што трэба чакаць яшчэ некалькі гадзін, то ўсе вырашылі схадзіць на стадыён «Тарпеда». Там арганізаваны стыхійны мемарыял футбольнаму заўзятару **Мікіту Крыўцову**, якога знайшлі загінулым напрыканцы жніўня.

Шпацыр да стадыёна завяршыўся пасля таго, як за маладзечанцамі адразу паехалі супрацоўнікі міліцыі, якіх пакінуў каля жодзінскай турмы намеснік начальніка мясцовага РАУС. Таму сябры Пяскова вырашылі не ісці да футбольнага стадыёна, а схадзіць паесці ў бліжэйшае кафэ.

Потым валанцёры раскажуць, што зноў прыязджаў Мурашкін, спрабаваў даведацца ў іх, што за людзі прыехалі да турмы. Яшчэ супрацоўнікі міліцыі фатаграфавалі аўтамабілі, аднак не адказалі, навошта гэта рабілі. Па словах валанцёраў, міліцыянеры сказалі, што гэта нехта з іх начальства прасіў зняць транспарт маладзечанцаў.

– Глядзіце, у нас няма ніякай сімволікі, мы нічога не крычым, чаго яны за намі сочаць? Ды яшчэ так непрафесійна. Ёсць рэальныя злачынцы, ну вось у гэтых міліцыянераў ёсць вольны час, мабыць, – разважалі маладзечанцы падчас шпацыру.

Пасля дзвюх гадзін на сустрэчу пусцілі сястру і маці Уладзіслава Еўсцігнеева. Яны змаглі паразмаўляць з ім гадзіну. Паведамілі, што Улад у добрым настроі, усміхаецца. Вераніка правяла з Паўлам таксама гадзіну. Яму не дазволілі расказваць, у якім аддзяленні ён сядзіць, колькі з ім чалавек.

Па словах Веранікі, Павел добра сябе адчувае. Расказаў, што ў маладзечанскім ІЧУ захварэў, але лекі яму не давалі.

– На жодзінскую турму не скардзіўся: ежа нармальная, а ў чацвер – лазня. І іх пускаюць у душ яшчэ.

Пяскоў у чарговы раз пацвердзіў, што не адмаўляецца падаваць абскарджванне на прысуд маладзечанскага суда.

– Бачу, у яго слёзы наварочваюцца. Кажу, «Ну, што ты плачаш, гэта я павінна плакаць».

Пасля сустрэчы Веранікі з Паўлам усё ж такі людзі адправіліся да стадыёна. Міліцыянеры паехалі за імі, суправаджалі да «Тарпеда».

Потым маладзечанцы заблукалі, спыніліся недалёка ад выезду з Жодзіна, міліцыянеры таксама спыніліся. Суправаджалі наведнікаў турмы і пры выездзе з горада прыкладна яшчэ 15 кіламетраў.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Маладзечанка расказала гісторыю затрымання сына 10 жніўня

**МАЛАДЗЕЧНА**

**«Я буду ісці да канца і даб'юся справядлівасці!..». З такога выказвання пачала свой маналог сталая маладзечанка Галіна Фёдараўна Лук'янцова, якая днямі прыйшла да нас у рэдакцыю.**



Скрыншот з відэа.

Затрыманне Валерыя Лук'янцова.

З сабой прынесла некалькі фотаздымкаў – скрынаў з ютуба, дзе зафіксаванае затрыманне яе сына.

### Маці затрыманага: як можна верыць пастанове, дзе няправільны час і месца затрымання

Маладзечанца **Валерыя Лук'янцова** затрымалі ўвечары 10 жніўня, калі ў горадзе праходзіла мірная акцыя пратэсту. Асудзілі па частцы 1 артыкулаў 23.34 і 23.4 – удзел у незаконных масавых мерапрыемствах і супраціўленне работнікам міліцыі. Далі 14 сутак. Праўда, адпусцілі на шостыя суткі, ноччу.

Тады ж у пастанове, якую прынёс сын, маці ўбачыла, што ў дакуменце пазначана, нібы мужчыну затрымалі 10 жніўня ў 18:32 на Цэнтральнай плошчы. Аднак Галіна Фёдараўна сцвярджае, што і час, і месца затрымання былі іншыя.

У доказ прыводзіць відэа з ютуба і фотаздымкі з момантамі затрымання яе сына. На іх бачна, што Валерыя затрымліваюць не на плошчы, а на скрыжаванні, каля былой «Елгавы». У машыну вядуць чатыры амапаўцы. Як адзін мог супраціўляцца чатыром, жанчына таксама не разумее. Не бачна супраціўлення і на відэа.

Час затрымання таксама выклікае ў жанчыны пытанні, бо ў жніўні ў 18:32 на вуліцы яшчэ светла. А на відэа і фота з затрымання – прыцемкі. На самой справе, сцвярджае жанчына, затрыманне адбывалася ў межах дзесяці вечара, а ў 18:32 сын быў дома.

– Паглядзіце, нават пастанова без подпісу суддзі, – дадае Галіна Фёдараўна, дэманструючы дакумент.

### Пры затрыманні мабільнік падняць не далі

Пра тое, што сын затрыманы, маці даведалася не адразу.

– З 10 на 11 жніўня ноччу мне патэлефанаваў з нумара сына незнаёмы мужчына. Сказаў, што знайшоў мабільнік на скрыжаванні, каля былога магазіна «Елгава». Пасля, той жа ноччу, ён прынёс мне сынаў мабільнік.

Як маці даведалася пазней, акуляры і мабільнік выпалі ў сына падчас затрымання. Падняць іх не далі.

Жанчына прызнаецца, што адразу не вельмі хвалявалася. Усё ж сын – дарослы мужчына. Калі ж па горадзе пайшлі чуткі, што 10 жніўня затрымалі шмат людзей, Галіна Фёдараўна патэлефанавала на 102. Тады і даведалася, што сын затрыманы.

Па словах Валерыя, пры затрыманні яго стукнулі дубінкай па шы, пасля білі ва ўнутраным дворыку Маладзечанскага РАУС.

– Сын не хоча дабівацца праўды. Кажа, навошта гэта ўсё трэба, калі ўжо затрымалі і збілі. А я калі бачу несправядлівасць, заўсёды іду да канца, – падсумавала Галіна Фёдараўна.

### Што адказалі ў Маладзечанскім РАУС

Жанчына звярталася ў РАУС Маладзечна з заявай, што нязгодная з прысудам. Аднак атрымала адказ, у якім паведамляецца: заяву пакінулі без разгляду. «Заява падлягае разгляду ў адпаведнасці з заканадаўствам, якое вызначае парадак адміністрацыйнага працэсу. Таксама заява да кампетэнцыі органаў унутраных спраў не адносіцца».

Паведамляецца, што прыгавор можа быць абскарджаны. Таксама заяўніца тлумачаць, што фізічнае ўздзеянне на яе сына з боку сілавікоў было законным, бо той супраціўляўся.

Адказ падпісаны начальнікам Маладзечанскага РАУС **Вадзімам Прыгарам**.

Фотаздымкі з затрымання ёсць у рэдакцыі. Відэа можна паглядзець на youtube.com/watch?v=GihBS3UPAro.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

## Ганаровы донар адмовіўся ад нагруднага знака

**МАЛАДЗЕЧНА**

8 кастрычніка маладзечанец **Арцём Ліпніцкі** даслаў ліст у Міністэрства аховы здароўя Беларусі. У ім Арцём адмаўляецца ад статусу «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь». Да ліста прыкладае адпаведны нагрудны знак і пасведчанне.

Арцём тлумачыць, што адмаўляецца ад статусу ў пратэст супраць гвалту, катаванняў, рэпрэсій. Ён выказвае салідарнасць з палітзняволенымі, журналістамі, якіх пераследуюць за іх працу, грамадзянамі, якіх караюць за патрабаванне праўдзівых выбараў.

– Падзеі пасля 9 жніўня закранулі і асабіста маіх сваякоў, і ўсю Беларусь, – кажа Арцём.

Адзначае, што кроў здаваў рэгулярна. Апошні раз – месяц таму.

Нагрудны знак «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь» даецца грамадзяніну, які здаў донарскую кроў не менш за 20 разоў на бязвыплатнай аснове або не менш за 40 разоў за плату.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Суд апраўдаў смаргонку, якую абвінавачвалі ва ўдзеле ў мітынгу

**СМАРГОНЬ**

12 кастрычніка суддзя Смаргонскага раёна **Дзмітры Дамарад** спыніў справу аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да **Людмілы Сульжыцкай**. Жанчыну судзілі за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

Як расказаў праваабаронца **Алесь Дзергачоў**, за масавым мерапрыемствам, што адбывалася ў Смаргоні 20 верасня, жанчына назірала здалёк. Тым не менш, на яе склалі пратакол за актыўны ўдзел.

Але падчас судовага пасяджэння суддзя прыйшоў да высновы: вінаватасць Людмілы Сульжыцкай не даказаная.

10 верасня той жа суддзя апраўдаў смаргонскага актывіста **Аляксандра Паплаўскага**. Аляксандр ужо адседзеў сем сутак за дробнае хуліганства, якія прысудзіла яму суддзя **Людміла Пятрова**. Але хлопец абскардзіў прыгавор у абласным судзе. Справу накіравалі на перагляд Дзмітрыю Дамараду. Ён цалкам апраўдаў актывіста. Пасяджэнне па хадатайніцтве Паплаўскага вёў па-беларуску.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Памёр праваабаронца Валеры Шчукін

На 79-м годзе жыцця памёр праваабаронца **Валеры Шчукін**.

Былы савецкі марскі афіцэр у 1995 годзе стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета, запомніўся беларусам сваім зацятым змаганнем на перадавой. Яго неаднаразова затрымлівалі, садзілі ў турму, але не зламалі.

Валеры Шчукін неаднаразова прыязджаў на суды ў Маладзечна. У прыватнасці, быў на судзе па справе настаўніц, якія суправаджалі школьнікаў на полі, калі загінула **Вікторыя Папчэня.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Запуск Астравецкай АЭС перанеслі на 2022 год

Урад Беларусі афіцыйна перанёс тэрмін поўнага ўводу БелАЭС з 2020 года на 2022 год.

Рашэнне замацаванае пастановай Саўміна №582 ад 6 кастрычніка 2020 года. Гэтым дакументам унесеныя змяненні ў зацверджаны ў сакавіку 2016 года комплексны план развіцця электраэнергетычнай сферы да 2025 года з улікам уводу БелАЭС і міжгаліновы комплекс мер па павелічэнні спажывання электраэнергіі да 2025 года.

Раней завяршэнне будаўніцтва і поўны ўвод БелАЭС магутнасцю 2,4 тысячы МВт у эксплуатацыю прадугледжваўся ў 2019-2020 гадах. У новай рэдакцыі дакумента адпаведныя тэрміны запланаваныя на 2019-2022 гады.

Акрамя таго, на 2022 год перанесены тэрмін завяршэння будаўніцтва і ўвод 800 МВт пікаў-рэзервовых магутнасцяў на электрастанцыях, якія працуюць у Беларусі. Пікі-рэзервовыя магутнасці не будуць удзельнічаць у пастаяннай генерацыі і будуюцца з мэтай пастаўкі электраэнергіі ў сетку ў выпадку нештатнай сітуацыі на БелАЭС.

Нагадаем, што, па нядаўняй інфармацыі, запуск БелАЭС пераносілі на пачатак 2021 года, яшчэ раней БелАЭС планавалі запусціць да 7 лістапада 2020 года. А сёлета ў пачатку чэрвеня падчас сустрэчы з прэм'ерам Венгрыі **Віктарам Орбанам** Аляксандр Лукашэнка сказаў, што першы блок АЭС у Астраўцы запусцяць «літаральна на днях».

**Паводле interfax.by.**

# Дэпутата з Лебедзева, якога збіў




Фота Настассі УТКІНАЙ.

Затрыманне ў Лебедзеве 12 жніўня. Затрыманне дэпутата Аляксандра Грымаця – у левай частцы фота.

**9 кастрычніка прайшло судовае пасяджэнне па справе Аляксандра Грымаця, якога абвінавачваюць ва ўдзеле ў несакцыянаваным мітынгу 12 жніўня ў Лебедзеве.**

Пасяджэнне вяла суддзя **Вікторыя Паляшчук**. Аляксандр Грымаць віну не прызнаў.

Грымаць – дэпутат Лебедзеўскага Савета дэпутатаў 28-га склікання, раней працаваў участковым міліцыянерам.

## Сведка Навіцкі

**Аляксей Навіцкі** – супрацоўнік Маладзечанскага РАУС. Ён ведае Грымаця, таму што разам служылі ў міліцыі.

Навіцкі склаў пратакол на Грымаця па артыкуле 23.34 – удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці даслала ў Маладзечанскі РАУС матэрыялы праверкі па збіцці сілавікамі Грымаця і яшчэ трох мужчын у Лебедзеве 12 жніўня.

Навіцкі вывучыў матэрыялы праверкі, склаў пратакол адміністрацыйнага правапарушэння, але Грымаця азнаёміў з матэрыяламі справы іншы міліцыянер, **Віталь Мурза**. Сведак і самога Грымаця Навіцкі не дапытваў.

**Грымаць**: Якія актыўныя дзеянні былі з майго боку?

**Навіцкі**: Вы прысутнічалі на масавым мерапрыемстве, паклікалі людзей, неслі лістоўку.

На Грымаця раней склалі пратакол аб парушэнні добраўпарадкавання населеных пунктаў. Маўляў, ён прымацаваў лістоўку каля крамы ў Лебедзеве. Суд па гэтай справе ўжо адбыўся, яго аштрафавалі на чатыры базавыя велічыні. З фабулы пратакола па гэтай справе значыцца іншы адрас месца здарэння, чым у фабуле пратакола па цяперашняй справе. Грымаць задаў пытанне Навіцкаму, ці зможа той на карце паказаць, дзе менавіта дэпутат стаяў у час мерапрыемства. Міліцыянер патлумачыў, што пісаў пратакол са слоў Грымаця.

## Паказанні Грымаця

Грымаць патлумачыў, што ён з'яўляецца дэпутатам Лебедзеўскага Савета дэпутатаў. Пасля 9 жніўня Грымаць размаўляў з многімі жыхарамі Лебедзева, тлумачыў, што трэба дзейнічаць выключна ў рамках заканадаўства.

**Пасля размовы з Сяргеем Бігелем Грымаць вырашыў напісаць калектыўны зварот да Тамары Дудзіч. Аб гэтым ён сказаў індывідуальна некальkім чалавекам.**

12 жніўня ён узяў дэпутацкі значок, зварот да Дудзіч, пайшоў да крамы на развілцы на ўездзе ў Лебедзева. Каля 12 гадзін Грымаць быў на месцы. Ён сказаў, што там жа зачытаў зварот да Дудзіч, людзі падпісалі зварот.

– Пасля таго як усе, хто хацеў, падпісалі зварот, сказаў, што іду да сельвыканкама. Прапанаваў тым, хто хоча, пайсці са мной. Да сельвыканкама 800 метраў, мы прайшлі толькі 200 метраў.

Грымаць адзначае, што ішлі па пешаходнай дарожцы, дарожны рух ніхто не перакрываў. Таксама людзі ішлі без якой-небудзь сімволікі, не крычалі ніякія лозунгі.

– Я быў упэўнены, што раблю ўсё па заканадаўстве. У мяне няма службовага кабінета, таму месцам выбралі пляцоўку каля крамы. Я лічыў, што выконваю свой дэпутацкі абавязак, калі мы неслі ліст да старшыні сельвыканкама ў Лебедзеве. Я нёс гэты ліст, каб адстойваць правы грамадзян, жыхароў Лебедзева.

**Паляшчук:** Ці было вам вядома, што ў Лебедзеве расклееныя лістоўкі, аб'явы аб тым, што збіраюцца несці ліст?

**Грымаць:** 11 жніўня мне патэлефанаваў Бігель. Ён сказаў, што наклеіў аб'явы. Бігель не паведамляў, дзе гэтыя аб'явы.

**Паляшчук:** Хто быў ініцыятарам сустрэчы?

**Грымаць:** Я.

**Паляшчук:** Якія мерапрыемствы вы праводзілі, каб зладзіць гэту сустрэчу?

**Грымаць:** Я падрыхтаваў ліст да Дудзіч, зачытаў яго.

**Паляшчук:** Што вы канкрэтна зрабілі, каб зладзіць сустрэчу?

**Грымаць:** Індывідуальна размаўляў з жыхарамі Лебедзева. Размаўлялі пра тое, што адбывалася пасля выбараў у Мінску. Я сказаў, што падрыхтую калектыўны зварот, аднясу да Дудзіч.

Грымаць падрыхтаваў тры экзэмпляры звароту. Першы – для Дудзіч, другі – для адзнакі, што зварот прынялі. А трэці для таго, каб падпісаліся ўсе, Грымаць баяўся, што не хопіць месца на адным лісце.

**Грымаць адзначыў, што не было міліцыянераў, якія б паведамілі, што мерапрыемства з'яўляецца несанкцыянаваным, а дзеянні яго ўдзельнікаў незаконныя.**

– Сілавікі выбеглі з аўтамабіля, сталі крычаць «Усім на зямлю» з матам. Я паспеў адступіць ад жанчыны, якая ішла са мной. Да мяне падбег амапавец, даў нагой па твары, а потым я адчуў, што мяне б'юць дубінкамі. Далей быў жах, – расказаў Грымаць пра затрыманне.

## Сведка Чарапко

**Аляксандр Чарапко** працуе ва УУС Мінаблвыканкама. Сведка расказаў, што ў той дзень знаходзіўся ў Маладзечанскім РАУС у камандзіроўцы. Начальнік Маладзечанскага РАУС паведаміў, што ў Лебедзеве праводзяць масавае несанкцыянаванае мерапрыемства. Яны прыехалі да крамы. Там сабраліся людзі.

– У іх у руках былі стосы лістовак, якія яны клеілі на слупы, крычалі нейкія словы ў бок улады і міліцыі. На лістоўках былі заклікі супраць улады.

Па словах Чарапко, яны перад затрыманнем прадставіліся і сказалі людзям разысціся. Многія пайшлі, засталося некалькі чалавек з лістоўкамі. Ім неаднаразова сказалі, што калі яны не разыдуцца, то прыменяць фізічную сілу і спецсродкі.

– Грымаць пачаў бегчы. Пры затрыманні сеў на зямлю, пачаў крычаць і не даваў сябе затрымліваць. У гэты

# АМАП, асудзілі. Далі 20 базавых

час ён крычаў розныя апазіцыйныя словы.

**Паляшчук:** Колькі чалавек засталося?

**Чарапко:** Два ці тры чалавекі.

**Паляшчук:** Колькі чалавек затрымалі?

**Чарапко:** Мабыць, трох. Не памятаю. Бігель быў, Грымаць, яшчэ нехта.

**Паляшчук:** Хто з супрацоўнікаў казаў, што мерапрыемства несанкцыянаванае?

**Чарапко:** Я сам. Кожны супрацоўнік, які размаўляе з грамадзянамі, расказвае пра несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. Усё было ў рамках закона. Мы рэагавалі хутка, неаднаразова патрабавалі разысціся, але нашы патрабаванні праігнаравалі.

***

**Грымаць:** Вы сказалі, што нас было трое, што вы зрабілі заўвагі. Дзе гэтыя заўвагі вы рабілі?

**Чарапко:** Усё гэта пазначаў у рапарце. Недалёка ад крамы.

**Грымаць:** У штo я быў апрануты?

**Чарапко:** Вы былі ў майцы і джынсах.

**Грымаць:** Якога колеру была майка?

**Чарапко:** Гэта пытанне не да месца. Можа, аранжавага.

**Грымаць:** У які бок я рухаўся ад вас?

**Чарапко:** Якая сутнасць пытання?

**Грымаць:** Куды я рухаўся?

**Чарапко:** Вы беглі ад нас.

**Грымаць:** Дзе вы нас затрымалі?

**Чарапко:** Вы пачалі бегчы, тады вас затрымалі.

**Грымаць:** Якія каманды вы крычалі ў наш бок?

**Чарапко:** Мы прадставіліся, сказалі, па якім артыкуле затрымліваем.

**Грымаць:** Ці былі ў момант затрымання ў затрыманых нейкія рэчы?

**Чарапко:** Я бачыў ліcтоўкі.

Чарапко сказаў, што затрымліваў Грымаца. Грымаць пацікавіўся, дзе ён можа пабачыць пратакол затрымання. Сведка не адказаў. Грымаць хадайнічаў аб патрабаванні дадаць да матэрыялаў справы пратакол затрымання. Суддзя адхіліла.

### Сведка Дудзіч

**Тамара Дудзіч** – старшыня Лебедзеўскага сельвыканкама.

12 жніўня Дудзіч патэлефанавалі ў 7 раніцы жыхары Заскавічаў. Сказалі, што ў Заскавічах расклееныя лістоўкі, што ў Лебедзеве пройдзе мітынг. Дудзіч патэлефанавала кіраўнікам прадпрыемстваў у Заскавічах і паведаміла пра гэтыя лістоўкі, таму што яны адказваюць за працоўныя калектывы.

Інфармацыю пра аб'явы ў Лебедзеве паведаміла Дудзіч на працы паштальён. Бліжэй да 10 гадзін яна паведаміла вышэйшаму кіраўніцтву ў Маладзечна аб гэтых лістоўках. Калі Дудзіч была ў Малой Боркаўшчыне, ёй патэлефанавала жанчына, сказала, што Аляксандра Грымаца затрымалі.

Дудзіч заявіла, што 18 жніўня калектыўны зварот усе ж такі дайшоў да сельвыканкама па пошце.

> – Але гэта было абсалютна незапатрабавана, таму што ў гэты час у краіне ўжо ўсё было спакойна.

Па словах Дудзіч, дэпутату трэба паведамляць старшыні Савета дэпутатаў пра сустрэчу з грамадзянамі. Дудзіч сказала, што Грымаць не паведаміў, што 12 жніўня ў яго пройдзе сустрэча.

### Сведка Александровіч

12 жніўня **Віталь Александровіч** прыйшоў каля 12 гадзін да крамы. Там дачакаліся Грымаца, які зачытаў калектыўны зварот. Александровіч пацвердзіў, што падпісаў зварот да Дудзіч. Далей пайшлі ў бок сельвыканкама. Потым пад'ехаў бус з амапаўцамі, яны пачалі крычаць і збіваць людзей.

– Супрацоўнікаў АМАПа не бачыў каля крамы, ніякіх патрабаванняў у момант затрымання ў бок людзей яны не выказвалі.

Александровіча першым завялі ў бус. Яго паклалі на падлогу, на яго паклалі Грымаца.

### Сведка Захаранка

12 жніўня каля 12 гадзін **Вольга Захаранка** пайшла ў краму з дзецьмі, каб купіць прадукты. Яна ведала, што будуць збіраць подпісы да калектыўнага звароту да Дудзіч. Аб гэтым ёй паведаміў асабіста Грымаць, а потым яна пабачыла аб'яву на дрэве каля крамы.

На сустрэчы Грымаць зачытаў зварот, потым Захаранка падпісала гэты зварот. Людзі пайшлі аднасіць зварот у сельвыканкам да старшыні Дудзіч. Захаранка сказала, што ў людзей не было ніякай сімволікі, яны не скандзіравалі лозунгі.

Захаранка ішла ззаду, большасць людзей была наперадзе. Потым спынілася машына, выбеглі амапаўцы і сталі збіваць людзей. Затрымалі мужчын, якія ішлі наперадзе.

### Сведка Ганушчанка

Сведкі Ганушчанкі не было на адміністрацыйным працэсе, зачытвалі пратакол з яго тлумачэннямі.

12 жніўня Ганушчанка заступіў на службу па ахове грамадскага парадку. Начальнік Маладзечанскага РАУС даў распараджэнне паехаць у Лебедзева, дзе праходзіла несанкцыянаванае масавае мерапрыемстве. Ганушчанка тлумачыў у пратаколе, што жыхарам паведамлялі, што мерапрыемства несанкцыянаванае і да людзей могуць прымяніць фізічную сілу і спецсродкі. Таксама Ганушчанка паведаміў, што Чарапко затрымаў Сяргея Бігеля, а не Грымаця.

### Сведка Бігель

12 жніўня **Віктар Бігель** прыехаў разам з братам Сяргеем у Лебедзева, каб схадзіць у сельвыканкам і падаць туды калектыўны зварот. Калі прыехалі да крамы, там стаялі людзі. Грымаць паказаў людзям зварот, яго прачыталі, падпісалі і пайшлі ў бок сельвыканкама.

– Пад'ехаў мікраўтобус, адтуль выйшлі людзі ў чорнай форме. Яны крычалі, казалі, каб мы клаліся на зямлю. Пасля нас на гэтым мікраўтобусе адвезлі ў райаддзел міліцыі.

> Бігель адзначыў, што ў руках у людзей не было сімволікі ці плакатаў, лозунгі не крычалі.

Па яго словах, супрацоўнікі міліцыі не тлумачылі, што мерапрыемства несанкцыянаванае, каля крамы міліцыянераў не бачыў.

У судзе прагледзелі фотаздымкі і відэазапісы, якія зрабілі карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» 12 жніўня.

> Суддзя Паляшчук прызнала Грымаця вінаватым у парушэнні артыкула 23.34 КоАП і наклала штраф у памеры 20 базавых велічын.

Аляксандр Грымаць збіраецца абскарджваць прыгавор.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Настассі УЛІНАЙ.

Аляксандр Грымаць пасля абвяшчэння пастановы суда.

# ФК «Маладзечна» працягвае барацьбу за выхад у першую лігу

**Футбалісты маладзечанскай каманды выйшлі ў фінальны этап барацьбы за выхад у першую лігу. «Рэгіянальная газета» расказвае, як правялі сезон зялёна-белыя і пра чарговы этап, які стартуе ўжо ў суботу.**



Маладзечанцы згуляюць у суботу дома з «Асіповічамі».

### Першае месца ў першым этапе

У першай палове сезона ФК «Маладзечна» трапіў у падгрупу «А». У ёй знаходзіліся «Баранавічы», «Стэнлес-ДЮСШ» (Пінск), «Дынама-Брэст-1960» (Маларыта), «Астравец», «Меліяратар» (Жыткавічы), «Івацэвічы», БДУ (Мінск), «Першы Рэгіён» (Кавярдзякі), «Кронан» (Стоўбцы), «Чайка» (Зэльва).

**Маладзечанскія футбалісты атрымалі 15 перамог у 20 гульнях, прайгралі толькі два матчы на пачатку сезона.**

Самымі «забіўнымі» аказаліся **Сяргей Корсак** і **Сяргей Галюк**.

Па выніках гульні ў падгрупе «А» ФК «Маладзечна» заняў першае месца.

### Фінальны раўнд

У фінальны раўнд увайшлі каманды з падгруп «А» і «Б». Гэты этап пачнецца ў суботу, 17 кастрычніка. У фінальным раўндзе згуляюць «Днепр-Магілёў», «Баранавічы», «Шахцёр» (Петрыкаў), «Асіповічы», «Стэнлес-ДЮСШ-3» (Пінск). Маладзечанцы згуляюць з гэтымі камандамі па два разы – дома і на выездзе.

На дадзены момант маладзечанскія футбалісты займаюць другую пазіцыю ў турнірнай табліцы фінальнага раўнда.

17 кастрычніка ў 15:00 ФК «Маладзечна» згуляе з «Асіповічамі» на дамашнім полі.

**Настасся УТКІНА.**

# Захар Емяльянаў стаў бронзавым прызёрам першынства Беларусі па шахматах

**Вілейскі трэцякласнік заняў у спаборніцтве па шахматах трэцяе месца з сямю ачкамі па выніках дзевяці тураў.**

Першынство Беларусі па шахматах сярод хлопчыкаў і дзяўчынак да васьмі і да дзесяці год завяршылася ў Магілёве 12 кастрычніка. Спаборніцтвы праходзілі чатырма асобнымі турнірамі для хлопчыкаў і дзяўчынак па швейцарскай сістэме ў дзевяць тураў.

Захар трэніруецца ў шахматнай школе «Дзевязь ферзяў», якая працуе ў Маладзечне і Вілейцы. Трэнер школы **Віктар Акотчык** расказвае:

– Захар займаецца дома кожны дзень. Акрамя нашай шахматнай школы, індывідуальна вучыцца ў майстра па скайпе. Рашае шахматныя задачы, гуляе па інтэрнэце, глядзіць навучальныя відэа.

На тое, чым дапамагаюць шахматы ў жыцці, Віктар Акотчык адказвае:

– Усім дапамагаюць. Дзіця становіцца зусім іншым. Моцным, валявым, усвядомленым, самастойным, дысцыплінаваным, цярплівым, працаздольным, разумным, жывым, вясёлым, камунікабельным, клапатлівым, уважлівым і гэтак далей. Вельмі заўважна развіваюцца логіка і ўяўленне, уменне планаваць і ўладкоўваць сваё жыццё і працу.

З шахматамі Захара пазнаёміў тата, калі хлопчыку было пяць год. У сям'і Емяльянавых прафесійных шахматыстаў няма. Тата, **Андрэй**, – індывідуальны прадпрымальнік, мама, **Алена**, – выкладчык англійскай мовы. Шахматыст вучыцца ў 3 «А» класе вілейскай сярэдняй школы №3.

**Калі хлопчыку было сем год, бацькі даведаліся, што ў Вілейцы пачынае працу шахматная школа «Дзевяць ферзяў» пад кіраўніцтвам Віктара Акотчыка.**

Заняткі праходзілі тры разы на тыдзень.

– Захар з задавальненнем хадзіў на заняткі, пачаў удзельнічаць у розных шахматных турнірах, у якіх паказваў добрыя вынікі.

З мінулага года Захар пачаў займацца анлайн з трэнерам з Мінска **Віталём Мерыбанавым**. Вілейчук займаецца таксама спартыўным плаваннем, легаканструяваннем, футболам, камп'ютарнымі гульнямі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Віляйчук Захар Емяльянаў мае шмат узнагарод за шахматныя спаборніцтвы.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | 5 | | 8 | | | 11 | | | | | |
| 1 | | | 2 | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | 4 | | | | | | | | 12 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 3 | | | | | | 9 | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | 19 | | | 22 | | |
| | | 6 | | | | | | | | | 16 | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 7 | | | | | 14 | | 17 | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | 23 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | 21 | | | | | | | | |
| | | 10 | | 13 | | 15 | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | 25 | | | 26 | |
| | | | | | | | | | | | | | 24 | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | 27 | | | | |
| | | 18 | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 20 | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Па меркаванні Віктара Гюго, менавіта гэта пачатак рабства.
3. Кустовая ягадная расліна сямейства ружакветных з калючымі сцёбламі.
6. З пладоў гэтага дрэва робяць разынкі.
7. Як напісаць «сухая трава» чатырма літарамі?
8. Лідар сярод краін па дэмаграфічнай сітуацыі.
9. У гэтым відзе спорту самы лёгкі мяч.
10. У футболе гэта прызначаюць з адлегласці 11 метраў.
12. Прымаўка: лепей дома на саломе, чым … на падушках.
14. Малюнак бога або святога ў выглядзе партрэта як прадмет рэлігійнага пакланення.
18. Дацкі казачнік.
19. Абліць, абсыпаць, абвеяць.
20. Дарвін лічыў гэта неабходнай умовай для натуральнага адбору. Адзін расійскі пісьменнік назваў менавіта гэта галоўнай умовай для выратавання.
21. Участак зямлі, засаджаны культурамі.
24. У старажытныя часы гэты харчовы дадатак цаніўся вышэй за каштоўныя металы і замяняў грошы.
27. Адзінае млекакормячае, якое не ўмее скакаць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Будзе дождж – будуць і …
4. Жыхары аднаго племені называюць гэту жывёлу «Жаба з накрыўкай».
5. Хаця мы мяркуем па-іншаму, але яго сябра ў арыгінале ніколі не казаў «Элементарна».
8. Каго не хапае: Белы, Пчала, Філ.
9. Чэрчыль аднойчы заўважыў, што СССР – не … народаў, а камунальная кватэра народаў.
10. Ён піша вершы.
11. Казачнае пітво, якое дае маладосць і прыгажосць; жыватворчы напітак.
13. Дзяліць на яго нельга.
15. Яно ў пакоі, а пакой у ім.
16. Уладзімір Някляеў: «Аднойчы, прачнуўшыся ўночы, Ты ўспомніш, што ўмееш лятаць, І стане наіўныя вочы Халодная … смактаць.»
17. У 1980-я стварылі мультсерыял пра добрага троля, які ажываў пры правільных паваротах. Як яго звалі?
22. Адзіны населены пункт Рытанскага сельсавета Астравецкага раёна, што пачынаецца з двух галосных.
23. Гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, Украіны, Польшчы і Расіі.
25. Непрыемнае пачуццё слабасці.
26. У гэтага транспартнага сродку ёсць стоп-кран.

## Адказы на крыжаванку з №41

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Абгортка. 3. Цемра. 4. Экватар. 7. Чужы. 8. Вясёлка. 11. Труба. 12. Спыніць. 15. Адэса. 17. Вяроўка. 19. Агіда. 21. Цытата. 22. Абачлівы. 25. Маятнік. 26. Абзац.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Танец. 5. Жарт. 6. Дзверы. 7. Чэрап. 9. Ёсць. 10. Адпусціць. 11. Табліца. 13. Флюгер. 14. Жонка. 15. Аварыя. 16. Экспрэс. 18. Сцябліна. 19. Абрыс. 20. Жыць.

## ГАРАСКОП НА 16-22 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** У гэты час у вас будзе шмат фантазій і мар, якія так захочацца ўвасобіць у жыццё. Аднак важна ўсе ідэі трансфармаваць у планы, якія магчыма дасягнуць за некалькі крокаў. З калегамі варта трымацца сур'ёзна і па-дзелавому. У каханні магчымае расчараванне.



**ЦЯЛЕЦ.** Каб дамагчыся мэт, пастарайцеся захоўваць пазітыўны настрой і дзяліцеся ім з іншымі. Часам ён можа быць нават больш важным, чым досвед і веды. Таму шукайце, што вас можа падзарадзіць, і не саромейцеся запальваць іншых.



**БЛІЗНЯТЫ.** У гэты час у вас будзе нібы дзве асобы – гэта заўважаць нават малазнаёмыя людзі. Пастарайцеся быць стрыманымі, каб не апынуцца ў сітуацыі, з якой будуць толькі непрыемныя варыянты выйсця. Будзьце асцярожныя з грашыма.



**РАК.** Вам раптам давядзецца асэнсаваць, што лепшым сябрам на гэты перыяд стане рашучасць. Чым больш высілкаў вы будзеце гатовыя прыкласці на тое, каб выканаць патрэбныя задачы, тым хутчэй вы атрымаеце вынік. І эфектыўнасць атрымаецца неверагодна высокай.



**ЛЕЎ.** Такі перыяд, што планы і думкі лепш захоўваць пры сабе. Не ўсе адразу пагодзяцца падтрымаць тое, што будзе важным вам. Так што спярша падумайце, як пераканаць у сваёй праваце, а пасля агучвайце задуманае тым, каму збіраліся.



**ДЗЕВА.** Магчыма вам давядзецца сутыкнуцца з не самымі сумленнымі людзьмі. Верагодна, яны нават захочуць скарыстацца вашымі слабасцямі. Калі вы будзеце падрыхтаваныя, то зможаце выйсці з сітуацыі з найменшымі стратамі.



**ШАЛІ.** Прафесійныя справы пойдуць угору. Хаця прасоўваць ідэі будзе не проста, і часам незразумела, як аргументаваць сваю думку. Таму паклапаціцеся пра базу аргументаў, каб маглі спакойна ёй апеляваць.



**СКАРПІЁН.** Вам будзе вельмі лёгка і камфортна на працы, захочацца зрабіць шмат новых крэатыўных праектаў. Каб зрабіць усё найлепшым чынам, пастарайцеся прыцягнуць да праектаў калег – яны могуць быць больш карыснымі, чым вы самі чакалі.



**СТРАЛЕЦ.** У гэты час за вамі будзе пільна наглядаць кіраўніцтва. Ад таго, наколькі дакладна ў вас атрымаецца выканаць заданні, залежыць перспектыва вашай працы. Магчыма, нават будзе вырашацца пытанне пра павышэнне.



**КАЗЯРОГ.** Вельмі пазнавальны перыяд, калі вы зможаце даведацца пра такія рэчы, якія даўно цікавілі, яшчэ і ва ўсіх падрабязнасцях. Выдатны перыяд, каб павысіць кваліфікацыю, запісацца на адукацыйныя курсы або серыю лекцый.



**ВАДАЛЕЙ.** У гэты час важна з усёй адказнасцю паставіцца да здароўя і фізічнай формы. Магчыма, нават пракансультавацца са спецыялістамі. Гэта зможа не толькі палепшыць самаадчуванне, але і быць больш эфектыўнымі ў працы.



**РЫБЫ.** Вельмі важна быць акуратнымі і пунктуальнымі ў працы. У гэты перыяд вас нібы будуць выпрабоўваць на тое, наколькі дакладнымі вы можаце быць. У адносінах з партнёрам чакае прыемнасць, пра якую вы даўно думалі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | 7 | | | | 8 | |
| 6 | 3 | | | | | | | 4 |
| | | | 4 | 9 | | 6 | | 1 |
| | | | | | | 8 | 9 | 6 |
| | 8 | 3 | | 2 | | | | |
| 1 | | | | 4 | | 3 | 5 | |
| 5 | | | | 1 | | | | |
| 7 | 9 | 2 | | | | | 1 | |
| | | | 2 | | 7 | 9 | | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


## Журналіст «Рэгіянальнай газеты» Настасся Уткіна перамагла ў творчым конкурсе «Вольнае слова»

8 кастрычніка ў Мінску зладзілі ўзнагароджанне пераможцаў штогадовага конкурсу Беларускай асацыяцыі журналістаў «Вольнае слова». У намінацыі «Дэбют» першае месца заняла карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» Настасся Уткіна.

Узнагароду Настасся атрымала за матэрыял пра тое, як у снежні 2019 года будаўнікі зруйнавалі ў Гальшанах археалагічны помнік 700-гадовай даўніны.

Конкурс «Вольнае слова» штогод праводзіцца Беларускай асацыяцыяй журналістаў з мэтай удасканалення прафесійнага майстэрства супрацоўнікаў СМІ, заахвочвання таленавітых журналістаў, стымулявання іх дзейнасці ў адстойванні прынцыпаў прафесійнай журналісткі і свабоды слова.



Фота забяспечанае Настассяй УТКІНАЙ.

Настасся Уткіна падчас працы ў Смаргоні.

**У рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» часова змяніліся тэлефонныя нумары!**

Аддзел інфармацыі: (8-0176) **53-78-05**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04**

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» знаходзіцца ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 143 (ГЦ «Тройка», пяты паверх).

Новы нумар офіса – **526.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Маладзечанца Віталя Алейніка затрымалі ў цэнтры Мінска, дзе ён быў па справах. Мужчына прайшоў Цэнтральны РУУС, Акрэсціна і Жодзіна. Яго маленькім дзецям родныя казалі, што на 15 сутак тата затрымаўся на працы.

## 17 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -4,4°С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +19,4°С у 2018 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,2 мм у 1985 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якія змены вы прапануеце ўнесці ў Канстытуцыю?

**Ігар:**
– Я ўвогуле ў палітыку не ўмешваюся, мяне гэта не цікавіць.



**Алена:**
– Хацелася б больш свабоды грамадству, каб чулі меркаванне народа. А то правоў мы амаль ніякіх не маем.



**Лілія:**
– Палітычныя пытанні я не абмяркоўваю. Гэта маё ўласнае меркаванне.



**Святлана:**
– Шмат чаго трэба змяніць. Мне не падабаецца, што прэзідэнт наш так шмат часу займае сваю пасаду. Хачу, каб не адзін чалавек кіраваў краінай, а каб была магчымасць і іншым людзям, яго камандзе вырашаць некаторыя пытанні.



**Валер:**
– Па-першае, вярнуць назад магчымасць быць прэзідэнтам толькі два тэрміны, як ва ўсіх нармальных краінах. Гэта галоўнае.



**Наталля:**
– Мне трэба падумаць над гэтым пытаннем. Ну, мы не бяром ужо, напэўна, тэрмін дзеяння прэзідэнта. Ёсць нешта больш важнае, зараз складана адказаць.



**Аляксандр:**
– Хочацца, каб заробкі былі больш высокія, бо цэны проста растуць у крамах. Жыць жа неяк трэба. Але так жыць можна, нармальна. Можна ў вёсцы ўзяць бульбы, запасы на зіму. А яшчэ самае лепшае будзе, калі ў краіне будзе мір, вось тады пра нешта можна будзе разважаць.



**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**


Рэгіянальная газета.
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№42 (1329) 16.10.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1730. Падпісана ў друк у 9.00 15.10.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.